# ЗЬМЕСТ.



---

1-ая дзярж. друк. Зак. № 550. У ліку 2000 экз. Галоўлітбел № 77.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі.

III год выданьня | Лістапад 1927 г. | № 11

## Роля с.-г. коопэрацыі ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі.

Сельскай гаспадаркай у Беларусі займаецца каля 86 проц. усяго насельніцтва. Адсюль зразумела, чаму асновай нашай с.-г. палітыкі ў вёсцы зьяўляецца разьвіцьцё вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы.

Правядзеньнем у жыцьцё ўсіх пытаньняў сельска-гаспадарчай палітыкі займаецца ўлада ў асобе Наркамзема. Задача-ж с.-г. коопэрацыі ў даным выпадку заключаецца ў тым, каб усе мерапрыемствы дзяржавы найлепш прыстасаваць да самадзейнасьці коопэраванага сялянства. Практычны ўдзел с.-гасп. коопэрацыі ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі выяўляецца ў такіх формах:

1. *Організацыя і папаўненьне асноўных капіталаў у сялянскай гаспадарцы.* Пасьля імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, а таксама пасьля нямецкай і бела-польскай акупацыі амаль зусім разбураная сялянская гаспадарка стала аднаўляцца. Зразумела, што тут патрэбна была дапамога дзяржавы ў форме крэдытаваньня.

З 1923 г. організуюцца таварыствы с.-г. крэдыту амаль з адных дзяржаўных капіталаў. і толькі з 1924 г. с.-г. коопэрацыя ставіць пытаньне аб уцягненьні сялянскіх грашовых укладаў у сыстэму крэдыту. Гэта ўцягненьне сялянсяіх укладаў зьяўляецца неабходным і зараз, бо сельская гаспадарка патрабуе далейшага ўзмацненьня крэдытамі. Аднак праца с.-г. коопэрацыі тут мае ўжо посьпех. Так, на 1-ае кастрычніка г. г. с.-г. коопэрацыяй сабрана сваіх сродкаў (паі, прыбылі) каля 2 мільёнаў руб. і ўцягнута сялянскіх укладаў да 400 тыс. руб. Штогодна праз коопэрацыю ў сялянскія гаспадаркі ўліваецца 15,2 мільёнаў руб. грашовага крэдыту.

2. *Організацыя рынку збыта.* Разьвіцьцё паасобных галін сельскай гаспадаркі ўпіраецца зараз у організацыю збыта. Праз організацыю збыта паасобныя сялянскія двары завязваюць непасрэдную сувязь з прамысловасьцю і пастаўляюць ёй сыравіну. З другога боку, коопэрацыйная загатоўка сялянскіх прадуктаў спрыяе разьвіцьцю паасобных галін сельскай гаспадаркі, павышаючы яе таварную частку. Вядома, што зараз некаторыя галіны гаспадаркі, як садоўніцтва, малочная і мясная жывёлагадоўля і птушніцтва, затрымліваюцца ў сваім разьвіцьці неорганізаванасьцю збыта. Неналаджанасьцю ў збыце такой сыравіны, як грыбы, ягады, лекавыя травы і інш., сельская гаспадарка траціць штогодна не адну сотню тысяч рублёў. Загэтым, задача с.-г. коопэрацыі ў даным кірунку павінна складацца ў тым, каб ахапіць усе рыначныя лішкі гаспадаркі і асабліва тыя з іх, якія да гэтага часу знаходзяцца ў руках прыватніка.

Збыт сялянскіх с.-г. прадуктаў праз с.-г. коопэрацыю ў 1926-27 г. складае суму 9.725 тыс. руб.

3. *Організацыя снабжэньня сродкамі вытворчасьці.* Зараз снабжэньню сельскай гаспадаркі сродкамі вытворчасьці надаецца пэўнае агрыкультурнае значэньне. Так, пашыраючы ў сялянскай гаспадарцы палепшанае насеньне і ўгнаеньні, с.-г. коопэрацыя гэтым самым падвышае ўраджай і паляпшае яго якасьць. Праз пашырэньне насеньня кармовых траў вырашаецца пытаньне кормаздабываньня і ствараецца мажлівасьць пашырэньня і палепшаньня жывёлагадоўлі. Продаж с.-г. машын і прыладаў мае ўплыў на тэхніку апрацоўкі зямлі, перапрацоўку с.-г. прадуктаў. С.-г. коопэрацыя адчыняе шырокія мажлівасьці скарыстаньня машыны для эканамічна слабых сялянскіх гаспадарак.

Аб'ём працы с.-г. коопэрацыі па снабжэньні, штогодна расьце. Так, у 1926-27 г. накіравана ў вёску с.-г. машын, насеньня і ўгнаеньняў на суму 10.200 тыс. руб. (па кантрольных лічбах).

4. *Індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі* выяўляе сабою адзін з найбольш сур'ёзных фактараў у справе яе рацыяналізацыі (лепшая організацыя, большая аплата працы і інш.). Індустрыялізацыя ўтварае новыя прадпрыемствы, прыцягвае вольныя рабочыя рукі і скарыстоўвае іх больш поўна на працягу цэлага году. Яна дапамагае зьнішчэньню беспрацоўя ў сялянскай гаспадарцы. Падругое, індустрыялізацыя прад'яўляе попыт на машыннае абсталяваньне і тым самым стварае новы рынак збыту для прамысловай прадукцыі.

С.-г. коопэрацыя ў галіне індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі праводзіць працу ў такіх кірунках:

а) Організацыя вытворчасьці палепшанага насеньня.

б) Організацыя перапрацоўкі с.-г. сыравіны (млыны, маслабойні, крухмальні, заводы па апрацоўцы лёну і г. д.).

в) Організацыя заводаў па пераапрацоўцы малака (сыр, масла) і мяса (каўбасныя вырабы).

г) Організацыя заводаў па тэхнічнай перапрацоўцы садавіны і гародніны.

Сетка ўсіх прадпрыемств сел.-гасп. коопэрацыі на 1-е кастрычніка 1927 г. складаецца з 483 адзінак, сярод якіх:

| | |
|---|---|
| Масладзельна-сыраварных заводаў | 223 |
| Крухмальняў | 5 |
| Цэгляных і бэтонных заводаў | 52 |
| Млыноў | 60 |

За кароткі час сваёй працы с.-г. коопэрацыя найбольш пасьпела разгарнуць тэхнічныя прадпрыемствы ў галінё малочнай гаспадаркі.

5. *Памяншэньне аграрнай перанаселенасьці.* Разгарнуўшаяся індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі дапаможа вырашаць і аграрнае пытаньне. Але побач з гэтым ёсьць і другія мерапрыемствы ў паслабленьні аграрнай перанаселенасьці, як асушка забалочаных плошчаў. Тут апрача работ Дзяржавы, па асушцы балот працуюць мэліорацыйныя т-вы, якіх зараз налічваецца звыш 600. Асушаныя плошчы балот пайшчыкі мэліорацыйных т-в уцягваюць у с.-г. зварот і павялічваюць прадукцыю сельскай гаспадаркі.

6. *Пашырэньне колектыўных прынцыпаў у сельскай гаспадарцы.* Бязспрэчна, што некаторыя мерапрыемствы ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі нельга правесьці ў жыцьцё без колектыўных прынцыпаў. Так, пашырэньне ў вёсцы складаных с.-г. машын немажліва без машыннага т-ва і саўмеснага карыстаньня машынаю. А колектыўнае карыстаньне машынаю вымагае сумеснай апрацоўкі зямлі, колектыўнай

пабудовы тэхнічнага прадпрыемства і г. д. Пачынаючы ад такіх простых форм аб'яднаньня сялянскіх гаспадарак, як машынныя т-вы, т-вы па збыту і закупцы, с.-г. коопэроцыя ў сваім разьвіцьці вядзе сялянскія гаспадаркі да больш высокіх форм с.-г. аб'яднаньняў, як с.-гасп. арцелі і камуны.

Лік спэцыяльных відаў аб'яднаньняў па БССР на 19 ліпеня г. г. складаў 1.201 адзінку, сярод якіх было:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Колектыўных гаспадарак | 419 | Садова-гародных т-ваў | 48 |
| Малочных арцеляй | 140 | Насенных т-ваў | 22 |
| Машынных т-ваў | 51 | Т-ваў па пчалярству | 25 |

Па ўсей гэтай працы можна бачыць, наколькі агромніста роля с.-г. коопэрацыі ў справе разьвіцьця сельскай гаспадаркі і перабудовы яе на сацыялістычных падставах. **А. Рыбакоў.**

# Вынікі перасяленьня з БССР у 1926-27 годзе.

Дзеля акраін савецкага Саюзу, як Сібір, Далекі Усход і інш., перасяленьне маеаграмаднае гаспадарчае значэньне. Дзякуючы перасяленьню, уцягваюцца ў гаспадарку новыя плошчы зямель і шырэй выкарыстоўваюцца прыродныя багацьці акраін Саюзу, як каменны вугаль, розныя руды, золата і інш. выкапні, лес, рыба, пушніна і г. д. Акрамя таго, перасяленьне дае мажлівасьць хоць часткаю паменшыць перанаселенасьць некаторых раёнаў Саюзу, як месца выхаду перасяленцаў. Такім месцам выхаду перасяленцаў зьяўляецца і БССР.

Савецкая ўлада зьвяртае асаблівую ўвагу на перасяленьне. Разьмер асыгнаваньняў з кожным годам павялічваецца; праводзяцца значныя работы за кошт дзяржавы на мясцох асяленьня. Так, карчуюцца цэлыя лясныя плошчы ў тых мясцох, дзе мяркуецца організаваць перасяленцкія пасёлкі, праводзіцца распашка трактарам цэлых вучасткаў для перасяленцаў.

У старыя часы для перасяленьня былі яшчэ свабодныя плошчы ў стэпу і лесастэпу Сібіры і Д. Усходу. Тады падрыхтоўка перасяленскіх вучасткаў складалася толькі ў правядзеньні дарог, капаньні студняў і адграніччэньні вучасткаў.

Зараз-жа, акрамя гэтага, патрэбна ўжо праводзіць расчыстку лесу, праводзіць мэліорацыі (асушэньне), праводзіць распашку цаліны і весьці папярэднія абсьледаваньні. Усё гэта патрабуе значных затрат працы і сродкаў, аб чым царскае перасяленьне і ня думала.

Лік-жа жадаючых перасяліцца з кожным годам павялічваецца. Паказваю тут некалькі лічбаў, якія належаць да ўсяго Саюзу.

| Гады | Сібір[1] | | Далёкі Ўсход[2] | |
|---|---|---|---|---|
| | Залічана душ | Перасялілася душ | Залічана душ | Перасялілася душ |
| 1925-26 | 63.785 | 29.567 | 57.834 | 11.640 |
| 1926-27 | 103.506 | 35.880 | 103.949 | 18.561 |

[1]) За 10 м-цаў.
[2]) За 9 м-цаў

Далей пакажам даныя, якія характарызуюць перасяленцкі рух па БССР. За час з 1 кастрычніка 1925 г. па 1 кастрычніка 1926 г. з БССР у Сібір перасялілася 2.400 чалавек, сярод якіх плянавых перасяленцаў было 1863 чал. і самавольцаў—537 чал.

У 1926-27 г. перасялілася значна больш—у Сібір 9.201 чал. і на Д. Усход 3.697 чал.

У 1926-27 г. залічана зямлі праз хадакоў для перасяленьня ў наступным годзе на такі лік едакоў: у Сібір на 28.562 едакі і на Д. Ўсход на 16.551 едака.

У 1925-26 г. перасяліўшыяся з БССР у Сібір складалі там 8,1% да ўсіх перасяленцаў у Сібір, а ў 1926-27 г.—25,6%. На Далёкім Усходзе перасяленцы з БССР у 1927 г. складалі 19,9% усіх перасяленцаў.

Паказаныя лічбы сьведчаць, што лік жадаючых перасяліцца расьце, а падрыхтоўка зямельных фондаў для перасяленьня зьвязана з рознымі цяжкасьцямі. Вось чаму на дапамогу дзяржаве і павінен прыці сам перасяленец. Чым сур'ёзьней і ўдумней будзе адносіцца да перасяленьня кожны, жадаючы перасяліцца, тым менш будзе памылак з боку перасяленцаў і тым лягчэй будзе дзяржаве справіцца з цяжкасьцямі перасяленьня. У наступных нумарох „Плуга“ мы дамо шэраг артыкулаў, у якіх будуць высьветлены галоўнейшыя пытаньні перасяленьня, як *выбар хадакоў, якія землі прыходзіцца займаць перасяленцу, якія памылкі дапускае перасяленец, як належыць вясьці гаспадарку ў Сібіры і на Д. Усходзе, у якія месцы Сібіры і Д. Усходу лепш накіроўвацца перасяленцу-беларусу, што прымушае некаторых перасяленцаў варочацца назад, пры якіх умовах лепш зусім не перасяляцца і інш.*

Цяпер скажам, дзе асяліліся нашы перасяленцы 1926-27 годзе. Больш усяго прышло перасяленцаў у Ачынскую акругу (1.700 чал.) за тым у Канскую 1.590 чал., Тулунаўскую—1.499 чал. і далей ідзе Томская і Краснаярская. Менш прышло перасяленцаў у Омскую, Іркуцкую, Барабінскую і Тарскую акругі (1.971 чал.).

На Д. Усходзе галоўную масу нашых перасяленцаў прымае Амурская акруга (63% перасяленцаў Д. Ўсходу).

Залічэньне зямель для перасяленьня ў наступным годзе па акругах Сібіры ідзе ў такім парадку: Ачынская - 4.823 едакі, Томская—4.612, Канская—4.223, Тулунаўская—3.994, Краснаярская—2.761.

На 5 іншых акруг Сібіру прыпадае толькі 28,5%. На Д. Усходзе больш вібіраюцца вучасткі ў Амурскай і Хабароўскай акругах.

Цяга нашых перасяленцаў у гэтыя акругі тлумачыцца наліччам там яшчэ леса-стэпавых плошчаў, зямельных лішкаў у старажылаў, параўнальнай блізасьці да чыгункі, знахаджэньнем там ранейшых перасяленцаў з Беларусі і г. д.

**П. Бойка.**




## Сялянскі палац.

(*Цэнтральны Дом Селяніна ў Менску*).

На рагу вуліц Чырвонаармейскай і Карла Маркса у цэнтры гораду будуецца адзін з лепшых будынкаў, які прызначаецца для сялян. Несьвядомыя гавораць, як гэта у горадзе і палац для сялян? Так вось—гэта дзіўным здаецца тым, хто жыў пад цяжарам царызму, паноў і капіталу і тым, хто не ўяўляе сабе, што робіць Савецкая Ўлада для сялян.

Распачата Наркамземам пабудова Цэнтральнага Дому Селяніна, галоўная мэта якога быць вогнішчам і кузьняй распаўсюджваньня асьветы і ведаў сельскай па гаспадарцы, каб селянін, трапляючы ў горад



Мітынг, на плоскай страсе будынку будуючагася Дому Селяніна 8-XI-27 г.

па розных справах, перш за ўсё мог атрымаць цёплы прыпанак, а пасьля патрэбныя дарады па пытаньнях, якія цікавяць селяніна. У вольныя хвіліны селянін будзе мець магчымасьць у вялікай бібліатэцы-чытальні даведацца з газэт, што на сьвеце дзеецца, а з розных кніжак даведацца, як палепшыць сваю гаспадарку. У свабоднай, агромністай залі будзе мець магчымасьць селянін праслухаць і адпаведную лекцыю, канцэрт, а таксама паглядзець тэатральнае прадстаўленьне, кіно, радыё і г. д. Тут Савецкая ўлада не забыла і пра жанчыну. Наша маці—сялянка рэдка трапляе у горад, бо яе прывязваюць да хаты на вёсцы малыя дзеці. Цяпер-жа маці-сялянка можа прыехаць у горад у Дом Селяніна з малым дзіцём, пакінуць яго ў дзі-

цячых ясьлях, спраўляць свае справы ва ўстановах і быць спакойнай, што яе малое будзе і накормлена, і напоена, і дагледжана ня горш, а нават лепш, як удома. Адначасна тут, у гэтым доме, сялянка-маці атрымае веды і дарады, як лепш гадаваць па савецку маладое, здаровае, крэпкае патомства.

Гэты Сялянскі Палац будзе мець плоскаю страху, на якой у летку на вольным паветры будзе кінематограф, тэатр і сталоука, дзе селянін, сустракаючыся з рабочым гораду, з сваім шэфам, патрапіць падзяліцца сваімі думкамі, сваім жыцьцём, а таксама многае даведаецца і ад рабочага.

У сёлеташнюю 10-ую гадавіну Чырвонага Кастрычніка, калі Дом зроблены толькі на палавіну, селянін аднак выказаў пажаданьне сус-



Выгляд Дому Селяніна з рогу вуліц Чырвонаармейскай і Карла Маркса. (Па пляну).

стрэцца з рабочым, у сваім доме, для чаго і быў наладжаны мітынг сумесна з рабочымі на плоскай страсе будынку, дзе рабочыя і сяляне ўзаемна адзін другога віталі, а кіраўніком пабудовы, інж. Ч. Родзевічам, былі дадзены падрабязныя тлумачэньні аб будынку, аб спосабах яго пабудовы, аб прызначэньні кожнага у паасобку памяшканьня і г. д., ілюструючы усё сказанае адпаведнымі рысункамі, плянамі, узорамі і г. д.

Належыць адзначыць, што ўсё гэта зрабіла вельмі вялікае ўражаньне на сялян, якія з вялікай напружанасьцю чакаюць скарэйшага заканчэньня пабудовы свайго Сялянскага Палацу, дзе скарэй мог-бы селянін выкоўваць свой дабрабыт, сваю асьвету-веду і адкуль выносіў-бы ідэі сацыялізму і нёс іх у самыя глухія куткі беларускай вёскі.

Ч. Р.

---

# Вынікі конкурсу на лепшы пасёлак у Гомельскай акрузе.

Каб жывей зацікавіць нашыя пасёлкі ў палепшаньні свае гаспадаркі, выклікаць паміж іх спаборніцтва ў гэтым, а таксама заахвоціць лепшых з іх, даючы ім прэмію,—увесну гэтага году быў абвешчаны конкурс на лепшы пасёлак. Конкурс праводзіўся на тэрыторыі былога Гомельскага павету, бо акруга тады ня была яшчэ павялічана да сучасных сваіх разьмераў.

Да конкурсу былі дапушчаны толькі тыя пасёлкі, якія ўжо мелі шматпольны севазварот, сартовыя пасевы, грамадзкія машыны, коопэрацыйныя с.-г. організацыі і г. д. У конкурсе бралі ўдзел 15 пасёлкаў; 4 з іх атрымалі прэміі на суму 600 руб., а 5-ём былі прысуджаны пахвальныя лісты.

Характарыстыка пасёлкаў, якія атрымалі прэміі:

1) Пасёлак „Новае Жыцьцё" Гомельскага раёну земляўпарадкаваны ў 1922 г., налічвае 19 сядзіб. Забясьпечанасьць пасёлка зямлёю наступная: ральлі 141 дзес., сядзібы займаюць 9,6 дзес., сенажаці 36 дзес., выган 26 дзес., іншыя ўжыткоўнасьці 33 дзес. Разам 245,6 дзес.

Севазварот у пасёлку сяміполны. Два палеткі плошчай 39,4 дзес. засеяны сартовым Пяткускім жытам, а ўвесь аўсяны палетак—20 дзес.—заняты аўсом „Залаты Дождж". Пад караньплодамі занята 3,5 дзес., пад канюшынай 36 дзес., пад выкаю 4,4 дзес.

Пасёлак мае машыны для грамадзкага карыстаньня: малатарню, арфу, сячкарню, ільнамялку і распашнік. Ёсьць таксама грамадзкі бык палепшанай пароды.

Лішкі свайго малака пасёлак аддае ў бліжэйшую малочную арцель. На пасёлку закладаюцца розныя паказальныя вучасткі; увесь лішак сартовага насеньня абменьваецца ваколічнаму сялянству. Праца па паляпшэньню сельскае гаспадаркі на пасёлку з кожным годам прыкметна разьвіваецца і з гэтага боку яна суліць шмат.

Пасёлку прысуджана прэмія—200 руб.

2) Пасёлак „Поўдзень" Веткаўскага раёну; земляўпарадкаваны ў 1924 г., налічвае 13 сядзіб. Зямлі мае: ральлі 65 дзес., пад сядзібамі 13 дзес., сенажаці 30 дзес., выгану 7 дзес., іншыя ўжыткоўнасьці 2 дзес.

Севазварот пяціпольны; жыта і авёс сартовыя. У бягучым годзе 6 дзес. канюшыны пакінута на насеньне. На пасёлку з'організована таварыства, якое мае быка палепшанай пароды і набор с.-г. машын: малатарня з саломатрасам, радковы сяўнік, 2 веялкі, сячкарня, асыпнік і 2 пружыноўкі.

Пасёлку прысуджана прэмія—150 руб.

3) Пасёлак „Новая Вёска" Чачэрскага раёну; земляўпарадкаваны ў 1924 г., налічвае 9 сядзіб. Зямлі пад сядзібамі 6,5 дзес., ральлі 97 дзес., сенажаці 22 дзес., выгану 13 дзес., іншых ужыткаў 5 дзес. Севазварот шасьціпольны; ўвесь аўсяны палетак заняты аўсом „Залаты Дождж". Канюшыны на насеньне было пакінута 6,5 дзес., а выкі 4,5 дзес. На пасёлку організавана машыннае таварыства, якое набывае цэлы набор машын.

Пасёлку прысуджана прэмія--150 руб.

4) Пасёлак „Васілёўка" Уваравіцкага раёну; земляўпарадкаваны ў 1924 г. налічвае 28 сядзіб. Зямлі пад сядзібамі 16 дзес., ральлі 162 дзес., сенажаці 8 дзес., іншых ўжыткаў 5 дзес., зарасьнікаў і няўжыткаў 170 дзес. Уводзіцца шасьціпольны севазварот; сартовага аўса „Залаты Дождж" у бягучым годзе было пасеяна 20 дзес., і лёну-даўгунцу 10 дзес. Організавана мэліорацыйнае і машыннае таварыствы; апошняе мае радковы сяўнік, малатарню, ільнамялку, сартоўку, сячкарню.

Пасёлку прысуджана прэмія—100 руб.

5) Пасёлак „Назарэт"; земляўпарадкаваны ў 1922 г., у ліку 11 сядзіб. Зямлі мае пад сядзібамі 20 дзес., ральлі 52 дзес., выгану 13 дзес., іншых ужыткаў 8,5 дзес. Сенажаці пасёлак ня мае.

З прычыны беднасьці глебы пасёлак спачатку завёў у сябе чатырохпольны севазварот, а цяпер пераходзіць да васьміпольнага, які канчаткова будзе ўведзены ў 1928 г. Усё насеньне пасеваў на пасёлку сартовае: жыта Пяткускае, авёс „Залаты Дождж", бульба Вольтман, лён-даўгунец. Папар засяваецца лубінам на зялёнае угнаеньне; у жыта падсяваецца сэрадэля. Усе пасялкоўцы сеюць караньплоды. Усё збожжа сартуецца, а сяўба робіцца радковым сяўнікам. Урараджай на пасёлку ўдвая большы, чым у суседніх вёсках.

Пасёлак мае машыны грамадзкага карыстаньня: радковы сяўнік, сяўнік для канюшыны, малатарню і сячкарню; мае таксама грамадзкіх пародістых быка, кныра і барана. Амаль усе хлявы на пасёлку уцяплёныя і сьветлыя, шмат хто з пасялкоўцаў завёў дацкія кармушкі.

На пасёлку організавана малочная арцель, якая збывала ў Палессельсаюз малако, але ўлетку гэты збыт па розных прычынах спыніўся і арцель цяпер не працуе.

Пасёлак належыць да ліку лепшых; калі-б ня спыненьне дзейнасьці коопэрацыйнай малочнай арцелі, дык яму была-б прысуджана грашовая прэмія. Дзеля таго, што ў сваёй дзейнасьці пасёлак у пэўнай меры адышоў назад, яму прысуджаны толькі пахвальны ліст. Можна, аднак, упэўнена лічыць, што малочная арцель пачне працаваць ізноў, бо прыбытак ад малака займае заметнае месца ў бюджэце пасялкоўцаў.

У акрузе ёсьць яшчэ шэраг пасёлкаў з шматпольлем, сартовымі пасевамі і г. д. Пасёлкі гэтыя былі прэміраваны раней, заслугоўвалі і зараз грашовае прэміі; аднак ім прысуджаны толькі пахвальныя лісты, бо за апошні год іх гаспадарка мала пасунулася наперад.

Акраграном **Мураўскі.**

---

# Аб організацыі насеннаводзтва ў Беларусі.

Згодна прамовы Наркома Земляробства БССР т. Прышчэпава. У гэтым годзе Наркамзем лічыць неабходным значна пашырыць справу кармовага насеннаводзтва на Беларусі.

Да гэтага часу гэтай галіне сельскай гаспадаркі не ўдзялялі патрэбнай увагі, у той час, як на Украіне гэта справа абстаўлена куды лепей.

Пры аглядзе восеньню 1926 г. Млієўскай дасьледчай станцыі і цэнтральнага гадавальніка Украіны, дзе разгорнута шырокая праца па вырашчваньню гародняга насеньня, адміністрацыя адзначыла, што ў апошнія гады гадавальнік заключыў умову з насенным т-вам „Аграномія", па якой гадавальнік павінен даставіць т-ву вызначаную колькасьць насеньня патрэбнага асортымэнта.

Пры такіх умовах, тая гаспадарка, якая вырашчвае насеньне, так і т-ва па збыту насеньня ведаюць, колькі чаго загатаўляць і прадаваць, бо ім ужо добра вядомы рынак.

Праз насеннае т-ва "Аграномія" Млієўская станцыя атрымала крэдыт у 30 тыс. руб. дзеля пабудовы будынка для перахоўваньня і апрацоўкі насеньня і на пашырэньне гэтай справы.

На Беларусі гэта справа яшчэ не наладжана. Трэба Наркамзему гэту справу наладзіць, організаваўшы насеннае т-ва па загатоўцы і збыту канюшыны, насеньня кармовых буракоў, морквы, бручкі, турнэпсу і гароднага насеньня.

Праз гэта т-ва крэдытаваньнем і заключэньнем умоў магчыма справу насеннаводзтва наладзіць у гэтым годзе і ў БССР, прыцягнуўшы сюды саўхозы, арцелі, камуны і паасобных гаспадароў.

У гэтым годзе маецца, напрыклад, у саўхозе Лютня-Бобрыкі насеньне кармовых караньплодаў некалькі дзесяткаў пуд. з $^{3}/_{4}$ гэктара. Гэта насеньне магчыма яшчэ збыць у бліжэйшых акругах. У 1927-28 г. намечана пад кармовае насеннаводзтва каля 5 гэкт. Пры таком палажэньні няма ўпэўненасьці ў тым, што ўдасца збыць некалькі сот пудоў кармовага насеньня, ня будучы добра знаёмым з патрэбамі рынку.

Без арганізованай працы Наркамзема ў гэтай галіне ўдасца справу насеннаводзтва паставіць на патрэбную вышыню.

Пажадана ў „Плугу" чуць думку іншых насеннаводаў наконт арганізацыі насеннаводзтва на Беларусі.

Загадчык Лютнянскага Акруговага
Садова-гароднага гадавальніка **Л. Калер.**

---

# Апісаньне гаспадаркі гр-на Прэйса.

Хутар гр-на Прэйса знаходзіцца ў Рудлішчанскім с.-с. Віцебскага раёну. Найбліжэйшы рынак—Віцебск—9 вёрст ад хутара. Гаспадарка мае 18 дзес. зямлі, з якіх сядзіба сенажаць, дарогі і равы займаюць 6 дзес., а рэшта ральля. Глеба—цяжкі суглінак, падглеб'е—гліна.

Гр-н Прэйс—былы фабрычны рабочы. Раней ён працаваў сталяром на фабрыцы „Дзьвіна" ў г. Віцебску, а гаспадаркаю пачаў займацца ў 1918 г. У першыя годы гаспадараньня гр-н Прэйс, ня маючы сродкаў, веды і практыкі, вёў гаспадарку звычайным парадкам, і яна не адрозьнівалася ад сумежных працоўных сялянскіх гаспадарак, дзе звычайна пануе трохполка, засьмечаныя і кепска выробленыя палі далі вельмі благі ўраджай.

Сувязь з грамадзкай аграноміяй і ўважныя адносіны да парад аграномаў прывялі да таго, што за 3-4 гады гаспадарка ў корні зьмянілася і з драпежніцкай ператварылася ў інтэнсыўную, г. ё. такую, дзе кожны шматок зямлі выкарыстаны ў поўнай меры без адпачынку. Поле падзелена на 8 палеткаў з наступным чаргаваньнем расьлін: 1) заняты папар, 2) жыта, 3) караньплоды, 4) ярына з падсевам канюшыны, 5 і 6) канюшына, 7) бульба і 8) ярына.

Зямля штогодна ўгнойваецца натуральным і мінэральным угнаеньнем у дастатачнай колькасьці і апрацоўваецца ўдасканаленымі прыладамі; апрацоўка выконваецца ў свай час. Дзякуючы гэтаму, зямля не запускаецца і дае добрыя параўнаўча ўраджаі. Пра поўныя неўраджаі ў гэтай гаспадарцы ня можа быць і мовы. Пры ўсіх няспрыяючых умовах гэтага году тут быў наступны ўраджай; жыта 80 пуд., аўса 75 п., ячменю 80 пудоў, пшаніцы 75 пудоў, бульбы 800 пудоў, караньплодаў 1500-2000 пуд. і канюшыны 250 пуд.

Сабраны ўраджай збожжа не затрымліваецца ў сьвірне, караньплоды ня гніюць у склепе альбо ў капцох на полі, а ўсё гэтае прапускаецца праз арганізм жывёлы і ператвараецца ў болей карысныя малочныя і іншыя прадукты.

Няжывы інвэнтар складаецца з 2-х сакаўскіх плугоў, асыпніка, жняяркі, касілкі, конных грабель, коннай малатарні, пружыноўкі, арфы, сартоўкі, сэпаратару, маслабойкі ды інш. дробнага інвэнтару.

Жывёла ў гаспадарцы:—двое добрых коняй, 6 дойных кароў, бык, тры цялушкі, восем авечак, некалькі сьвіней і некалькі дзесяткаў рознага птаства. Каровы палепшанай мясцовай пароды, маюць гадавы ўдой да 200 вёдраў. Хлеў хоць і стары, але сьветлы і цёплы. Быдла корміцца з дацкіх кармушак па нормах—даецца ў корм канюшына, сена, выка, вотрубы, макуха і караньплоды.



Прыборка яблык у гр. Прэйса, які арганізаваў сярод сялян вінаробную арцель.

Пры гаспадарцы ёсьць сад—120 дрэў, пладовая школка, невялікі ягаднік, пчолы ў рамкавых вульлёх. Сад угнойваецца, падрэзваецца, з дрэваў абчышчаюцца мох, лішаі і г. д.

Уся гаспадарка абслугоўваецца асабістаю працай сям'і, якая складаецца з гаспадара, яго жонкі, пляменьніцы і двох дарослых сыноў.

Уся гаспадарка праводзіцца разумна і акуратна; кожны кавалачак зямлі ўлічаны. Відаць, што чалавек укладае многа сілы і творчага розуму ў сваю гаспадарчую працу.

Прыклад гэтае гаспадаркі, якую вядзе былы фабрычны рабочы, паказвае, якіх вялікіх вынікаў можна дасягнуць у сялянскай гаспадарцы, упарта ідучы да палепшаньня яе праз разумнае гаспадараньне.

Гр. Прэйс арганізаваў садаводаў свайго раёну у вінаробную арцель.

**Аграном Булай.**

г. Віцебск.




# Праца над чырвоным беларускім быдлам у Менскай акрузе.

У гадоўлі быдла Менская акруга характэрызуецца вызначаным напрамкам на павялічэньне малочнасьці. Колькасьць кароў у процэнтах да ўсяго быдла, як паказчык таго ці іншага напрамку жывёлагадоўлі, і стыхійны ўзрост малочнай коопэрацыі за апошнія годы гэта пацьвярджаюць. Гэтак, у 1926 г. колькасьць кароў адносна да ўсяго статку была 61,9% па акрузе, і па некаторых раёнах—Самахвалавіцкім 69,5%, Койданаўскім 69%. Лік малочных арцеляй павялічыўся ад 6-ці ў 1924/25 г. да 23-ох у 1925/26 г. і 35-ці ў 1926/27 г.

У сувязі з гэтым усе мерапрыемствы па гадоўлі быдла ў вакрузе накіраваны на павялічэньне яго таварнасьці (шляхам палепшаньня быдла ў сябе па продукцыйнасьці, аплаце корму і інш.), і на стварэньне пароды мясцовага палепшанага быдла, адбіраючы для гэтага ўвесь, які ёсьць, лепшы матэрыял. Да апошняга прымушае і само жыцьцё, бо выпіска чужаземных парод з заграніцы—мерапрыемства каштоўнае і ў сэнсе рэнтабельнасьці няпэўнае, што пацьвярджаюць факты няўдалай акліматызацыі іх ва ўмовах беднай сялянскай гаспадаркі. Апрача таго, кароткатэрміновыя нагляданьні над нашым мясцовым быдлам даюць зьдзіўляючыя прыклады надзвычайнай чуласьці яго на палепшаныя ўмовы кармленьня, утрыманьня і догляду і паказваюць на неабходнасьць працы над быдлам у гэтым напрамку. Гэтак, паводле даных за 1926 г., у сярэднім з 128 сялянскіх кароў, якія былі на 3-х тыднёвым паказальным кармленьні, карова 19 п. 28 ф. жывое вагі давала пры сялянскім кармленьні 11 ф. малака ў дзень, а пры кармленьні па нормах—17½ ф. У першым выпадку, пры вартасьці малака ў 51 кап. і корму ў 45 кап., карова давала ў дзень 6 кап. прыбытку, а пры кармленьні па нормах, пры вартасьці ўдою 78 кап. і корму 58 кап.—20 кап. прыбытку. Паасобныя каровы адказвалі на правільнае кармленьне павялічэньнем удою на 10 і болей фунтаў у дзень, даючы прыбытак да 50 кап. і вышэй.

Асноўнаю пародай быдла ў вакрузе зьяўляецца мясцовая, у некаторых мясцовасьцях нязначна палепшаная праз дамешку крыві замежных парод, і ў Самахвалавіцкім раёне адродак мясцовага палепшанага быдла—чырвонага беларускага. Распаўсюджанасьць чырвонага беларускага быдла мае за асяродак расаднік гэтага быдла—племгас Калініна. Паводле падліку, зробленага ў паасобных с./саветах, у прыватнасьці па Гатаўскім с./с. (у раёне племгасу Калініна), гэта парода складае 25% усяго быдла.

Вывучэньне гэтай пароды Бакуном і праф. Калугіным выявіла цэлы шэраг каштоўных уласьцівасьцяй, якія вымагаюць развіцьця і замацаваньня іх праз пастаянную працу. Прыняты Наркамземам плян мерапрыемстваў па гадоўлі чырвонага беларускага быдла праводзіцца ў жыцьцё ад 1923/24 г. У Самахвалавіцкім раёне ад 1923/24 г. і да цяперашняга часу праводзіцца організацыя дзяржаўных злучпунктаў з бугаямі чырвонай беларускай пароды, якія былі набыты Акрземадзелам у племгасе Калініна. Організацыя пунктаў праводзіцца навокал племгасу коламі на адлегласьці 5 вёрст у першы год і паступова пашыраецца ў наступныя годы.

| | |
|---|---|
| У 1924 г. організавана было | 3 пункты, |
| у 1925 г. іх было | 13 |
| у 1926 г. „ „ | 33 |
| і ў 1927 г. ёсьць | 40. |

Вынікі гэтага мерапрыемства ўжо прыкметны. Сяляне цяпер маюць значную колькасьць маладняку чырвонага беларускага быдла, які прайшоў праз розныя конкурсы па гадоўлі маладняку, што былі наладжаны ў 1926 і 1927 г. г.

Сталая праца па вывучэньні чырвонага беларускага быдла, павышэньні продукцыйнасьці на падставе палепшаных умоў корму, утрыманьня і догляду і па падборы яго вядзецца ў 2-х кантрольных саюзах—Кацяскім і Крупіцка-Стаўбуноўскім, якія працуюць ад 1926 г., і ў племгасе Калініна.

У кантрольных саюзах, разам з каровамі іншых парод, ёсьць 23 каровы чырвонай беларускай пароды, а ў племгасе Калініна з агульнага ліку 132 шт.—60 кароў. Сярэдні гадавы ўдой за 1926/27 г., паводле даных ад 10 кароў гэтай пароды ў Кацяскім таварыстве, роўны 105 п. 28 ф. пры сярэднім узросьце (3 ацёлы); па даных ад 6 кароў у Крупіцка-Стаўбуноўскім таварыстве удой—126 п. і па даных ад 47 кароў у племгасе Калініна—108 пуд.

Вышэйпаданыя лічбы пацьвярджаюць усё тое, што было сказана раней і высоўваюць новую думку—аб шырэйшым прыцягненьні сялянства да працы над чырвонай беларускай пародай і большай узгодненасьці гэтай працы з існуючымі ў раёне племгасамі праз організацыю раённага т-ва гадоўцаў чырвонага беларускага быдла, якое (т-ва) і было закладзена ў ліпені 1926 г. Таварыства гадоуцаў чырвонага беларускага быдла налічвае цяпер сярод сваіх сяброў больш як 50 сялян і 2 племгасы—Калініна і Русінавічы. Ня гледзячы на кароткі час свае дзейнасьці, Т-ва патрапіла зрабіць значную працу над чырвоным беларускім быдлам, заваяваць аўторытэт сярод сялянства і ўцягнуць яго ў гэтую працу. Маладняк, які да гэтага часу ішоў на бойню, цяпер затрымоўваецца Т-вам праз організацыю пасрэдніцкага Бюро па куплі і продажу. Лепшы маладняк гадуецца ў пітомніку Т-ва альбо пакідаецца гаспадарамі для гадоўлі ў сябе. Гэтымі і іншымі мерапрыемствамі затрымана ў раёне каля 100 штук лепшага маладняку.

Недахоп палепшаных бугаёў прымусіў Т-ва да гадоўлі свайго племяннога матэрыялу. У бягучым годзе Т-вам закладзены ў 2-х гаспадарках сяброў 2 пітомнікі на 3 і 10 быкоў чырвонай беларускай пароды, пастаўлена ў сяброў Т-ва 30 бычкоў на 6-ці месячную паказальную гадоўлю (пасьля якой лепшыя бычкі будуць пастаўлены на 1-шы гадавы конкурс гадоўлі) і прынята ад Акрземадзелу, для пастаноукі на злучпунк-

ты, 10 бугаёў. Апрача гэтага, Таварыства брала ўдзел у правядзеньні 2-х вывадак маладняку пры кантрольных саюзах і разьмеркавала сярод сваіх сяброў 1000 пуд. концэнтраванага корму.

Праца Т-ва мела, галоўным чынам, організацыйны характар, што зусім зразумела для першага году працы. Ёсьць меркаваньні, пачынаючы ад 1927/28 г., значна пашырыць дзейнасьць Т-ва і наладзіць працу па вывучэньні быдла, якое належыць да сяброў Т-ва. Гэтая праца будзе праводзіцца шляхам сыстэматычных запісаў удояў, падліку корму, запісаў па ўзгадаваньні маладняку, дасьледваньні жыру і г. д.

Трэба думаць, што, распачатая з вялікімі перашкодамі ў першыя часы, праца над чырвонаю беларускаю пародай зацікавіць сабою ня толькі шырокія сялянскія масы, але заваюе і грамадзкую думку, і тым самым паслужыць для свайго далейшага разьвіцьця і замацаваньня.

Зоотэхнік Менакрземадзелу **М. Канавальчык.**

---

# Зімняе стойлавае ўтрыманьне кароў *).

Таннасьць летняга корму і незначная трата часу на догляд прымушае селяніна зацягваць утрыманьне скаціны на пашы да глыбокай восені. За адсутнасьцю зялёнай травы на пашы ў гэты час скаціне даводзіцца падбіраць старую, засохшую траву. Удоі кароў зьніжаюцца. Але гэтага добры гаспадар не павінен дапушчаць. Як толькі пачалі паніжацца ўдоі, што бывае ў канцы жніўня, гаспадар павінен пачаць падкормку кароў дома. У пачатку ў падкормку даецца скошаная зялёная трава, да якой паступова падмешваецца сена. Калі зялёная трава канчаецца, даюць адно сена з дадаткам markознага бацьвіньня з гароду.

Такім чынам, паступова пераводзяць скаціну на зімняе стойлавае ўтрыманьне. Спачатку корм даецца раніцаю і вечарам, а потым і днём. К канцу пашы скаціну пераводзяць толькі на адну пагулянку—раніцаю. Гэту пагулянку пакідаюць на ўсю зіму, скараціўшы яе час. Пры такім парадку перахода да зімы ня бывае значнага хістаньня ўдояў. Скаціна адчувае сябе добра.

Для таго, каб у далейшым зімняе утрыманьне кароў ішло правільна, неабходна гаспадару з восені паклапаціцца аб падрыхтоўцы корму на зіму, як сена, салома, караньплоды, высеўкі і макуха. Уцяпліць і асьвятліць хлеў. Трэба памятаць, што халодны і цёмны хлеў—двайная трата для гаспадара. Добры-ж хлеў ня толькі ашчаджае корм, але і павялічвае ўдоі кароў.

Кармовыя запасы для зімы неабходна прыстасоўваць да ліку скаціны—лепей скараціць колькасьць скаціны, чым дапушчаць галаданьне яе на працягу зімы і вясны.

Надзвычайна вялікай эканоміяй для гаспадаркі зьяўляецца ўменьне скарыстаць корм з найбольшай карысьцю для гаспадара. Для гэтага трэба карміць карову па самаму строгаму разрахунку, памятаючы, што корм жывёлы патрэбен, як на падтрыманьне жыцьця, так і на вытвор малака.

Корм, які ідзе на падтрыманьне жыцьця жывёлы, завецца падтрымліваючым. Пры складаньні кармовых норм да яго прылічваюць сена, салому і мякіну. Да корму-ж, які даецца жывёле на вытвор ма-

---

*) Летняе ўтрыманьне кароў гл. „Плуг“ № 4—1927 г.

лака—прадукцыйнага корму, адносяць—зярно, муку, высеўку, макуху і інш., а таксама кораньплоды і бульбу.

Прадукцыйны корм падзяляецца на спажыўны (зярно, мука, высеўкі, макуха) і сакавіты (кораньплоды і бульба).

Аб'ёмісты, спажыўны і сакавіты корм розьняцца адзін ад другога колькасьцю спажыўной матэрыі, якая спажываецца організмам жывёлы. Гэтай карыснай матэрыі больш усяго палучае жывёла ў спажыўным корме (мука, макуха і інш.). Потым ідзе сена, салома і сакавіты корм. А гэты сакавіты корм робіць уплыў на аддзяленьне малака („гоніць малако"), чаму для атрыманьня высокіх удояў і неабходна яго даваць скаціне.

У карысную частку корму ўваходзяць розныя матэрыі, сярод якіх выключнае значэньне для жыцьця жывёлы і стварэньня малака мае бялок. Бялку больш усяго ў спажыўным корме (мука, макуха і інш.).

Як мы бачым, розны корм мае і розны склад спажыўных матэрый, чаму і на жывёлу ён робіць не аднолькавы ўплыў. Для таго, каб ведаць, як скармліваць і замяняць адзін корм другім (бяз шкоды для жывёлы), прынята ўсякі корм па яго карысьці пералічаць на спажыўнасьць аднаго фунта аўса, які ў такім выпадку называюць кармовай адзінкай. Адну кармовую адзінку будуць даваць:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 3 | фун. | сена (лугавога сярэдняга) | 10 | фун. | буракоў кармовых |
| $3^1/_2$ | „ | „ балотнага | $^3/_4$ | „ | макухі льняной |
| 4 | „ | саломы яравой | $1^1/_4$ | „ | высевак пшанічных |
| 5 | „ | „ азімай | 1 | „ | мукі рознай |
| $3^1/_2$ | „ | бульбы | | | |

На падтрыманьне жыцьця жывёлы на кожныя тры пуды жывой вагі даецца па аднэй кармовай адзінцы ў аб'ёмістым корме. На стварэньне малака на кожныя тры фунты сярэдняга па жыру малака даецца па аднэй кармовай адзінцы ў спажыўным і сакавітым корме. Апрача таго, пры сьцельнасьці каровы на рост цяляці ў другія тры месяцы даецца па $^1/_3$ кармовай адзінкі, а ў апошнія тры месяцы сьцельнасьці па аднэй кармовай адзінцы ў спажыўным корме *).



Кармушка, якую збудаваў гаспадар Прэйс.

Пры ўтрыманьні кароў у халодным хляве на падтрыманьне жыцьця да кармовай дачы дадаецца яшчэ адна кармовая адзінка. Пры адсутнасьці добрых кармушак на раструску корму дадаецца таксама адна кармовая адзінка

*) Больш падрабязна аб кармовых адзінках і кармовых нормах па дацкаму спосабу гл. брашуру Менакрза „Як павялічыць кармы ў гаспадарцы і як правільна скарыстоўваць іх".

Склад кармовай дачы павінен быць рознастайным і каштаваць гаспадару нядорага. Для падтрымліваючага корму лепш даваць у перамешку сена з саломаю і мякіну. Спачатку корм трэба таксама даваць не адным, а ў цэлай групе.

Сена і салома даюцца скаціне, як цэлай, так і сечкаю, запаранай і пасыпанай мукою, высеўкамі ці сольлю. Макуха скармліваецца пацёртаю, сухою ці размочанаю (густым цестам) ў дзень кармленьня. Макуху сланэчніка належыць даваць толькі размочанаю, бо сухою яна можа вызываць хваробу языка і рота.

Высеўкі даюцца сухімі ці трохі замочанымі, але ні ў якім разе ня пойлам, бо яно дрэнна адбіваецца наператраўліваньні корму.

Бульба даецца сырою. Вараная бульба робіць уплыў на адкладваньне жыру, а не на аддзяленьне малака. Кораньплоды задаюцца цэлымі бяз усякай падрыхтоўкі.

Гнілога і наогул сапсаванага корму скаціне лепш не даваць. Ён шкодзіць здароўю жывёлы і псуе якасьць малака.

Пры пераходзе ад аднаго корму да другога неабходна захаваць паступовасьць. Сутачная дача корму на карову сярэдняй жывой вагі (20-26 п.) будзе такой:

| НАЗВА КОРМУ | Найбольшая норма ў фун. | Сярэдн. норма (дача) у фун. |
|---|---|---|
| Макуха сланэчная | 7 | 3 |
| „ ільняная | 5 | 3 |
| Пшанічных высевак | 10 | 7 |
| Ржаных „ | 7 | 5 |
| Аўса | 7 | 5 |
| Жыта | 7 | 7 |
| Бульбы | 20 | 12 |
| Буракоў кармовых | 80 | 50 |
| Трунэпсу | 60 | 40 |
| Морквы | 40 | 30 |

Сутачныя кармовыя нормы могуць быць надзвычайна разнастайны па свайму складу ў залежнасьці ад налічча ў гаспадарцы корму, яго вартасьці, жывой вагі каровы і яе прадукцыйнасьці. Для прыкладу прывяду некалькі кармовых норм па даных паказальнага кармленьня на Менскай акрузе ў 1925-26 г.

1. Карова жывой вагі 15 пуд. пры ўдоі $15^1/_2$ фун. (гр-на в. Суціна, Пухавіцкага р., Пётры Гарэцкага), пры правільным кармленьні палучала ў суткі:

Сена балотнага . . . . 21 фун.
Макухі ільняной . . . . 6 „
Буракоў кармовых . . . 12 „

Усяго $12^1/_2$ кармовых адзінак.

2. Карова жывой вагі 18 пуд. пры ўдоі 12 фун. (гр. в. Заказінец, Смалявіцкага р., М. Пятроўскага) палучала ў суткі аб'ёмістага корму 10 фун., спажыўнога 4 фун. і сакавітага 24 фун. Усяго $10^1/_2$ кармовых адзінак.

Пры складаньні кармовых норм неабходна зварачаць увагу і на кошт кармовай дачы. Для гаспадара важна ня толькі ўмець скласьці правільную норму для каровы, але трэба ўмець скласьці яе так, каб яна была магчыма дзешавей і карысьней для гаспадаркі.

Заотэхнік **М. К.**

---

# Завадзіце дацкія кармушкі

Чытаючы сельска-гаспадарчыя кніжкі, часопісі і газэты, я часта чытаю, якую вялікую карысьць даюць дацкія кармушкі і як іх пабудаваць. І вось летась у восень я зрабіў сваім каровам і каню дацкія кармушкі. Да гэтага часу сена я каровам клаў у зроблены ў адным углу хлява засек. Бывала накладзеш корму нанач, а прыходзіш раньні, дык палова сена ляжыць у гнаі і каровы галодныя. Калі я пачаў карміць кароў з дацкіх кармушак, дык у мяне трацілася сена на кожную карову ў суткі на $4^1/_2$ фун. менш, і каровы павялічылі ўдой малака.



Карова і бык селяніна В. Францкевіча ў хляве перад кармушкамі.

А што мне абышлася праца і матэрыял дзеля кармушак? Кармушкі я зрабіў за адзін дзень (для двух кароў і аднаго каня). Цьвікі каштавалі 39 кап. Лес на кармушку бадай знойдзецца ў кожнага селяніна ў сябе на двары. Выходзіць, што ў адзін дзень я „зарабіў" 54 р. калі ня лічыць прыбаўку ад малака—іменна: 2 каровы ў суткі затапталі ў гной 9 фун. сена і конь 3 фун.; усяго 12 ф., а за паўгода гэта складае 54 пуд. Сена ў нас каштуе 1 руб. за пуд.

У гэтым годзе я хлеў уцяпліў—заканапаціў дзіркі, зрабіў шчыльнейшыя дзьверы і г. д. Апрача таго, пачынаю карміць жывёлу па нормах. Аб выніках гэтага кармленьня напішу ў часопісі „Плуг".

(В. Цішаўкі, Магілеўшчына). Сел.-дасьл. **А. Фурса.**

---

# Кармушкі эканомяць корм.

У мінулым годзе мне шмат дзе прыходзілася чытаць артыкулы, як аграномаў, так і розных сялян-культурнікаў, што кармушкі зьберагаюць корм. І вось у мінулым годзе ўвосень я зрабіў кармушкі для сваіх кароў. Зрабіў я кармушку вялікую і разгарадзіў на чатыры часткі, адкуль і карміліся чатыры каровы.

Рабіць кармушку на кожную карову трэба больш матэрыялу і гэтым больш займаецца месца ў хлеве.

Сваю кармушку я паставіў у адным канцы хлева, а кругом яе стаяла чатыры каровы. Даючы каровам корм у кармушках, я заўважыў, што корму прышлося даваць менш, чым у мінулыя гады, калі я кідаў яго пад ногі скаціне. Што трацілася корму ў мяне без кармушкі на тры каровы, дык тым кормам пры кармушках у мінулым годзе я пракарміў чатыры каровы. А каровы вышлі з зімы сыцейшыя чым у тыя гады, калі разыходзілася больш корму. Хлеў у мяне цёплы, зрублен у 1924 годзе. Шчылін нідзе няма. Сёлета к зіме я яшчэ лепш аглядзеў хлеў: нацягаў на вышкі жэрдзьдзя і паверх жэрдак нацягаў саломы. У хляве адразу стала цяплей, але стала і цёмна. Каб асьвятліць хлеў, я прасек вокны. Цяпер зайшоўшы ў хлеў проста люба паглядзець: цёпла, сьветла і каровы не стаяць сагнуўшыся, а падносам у іх заўсёды ляжыць сьвежая, чыстая няўтоптаная ў гной трасянка. Цяпер і я магу параіць чытачом „Плуга“ рабіць кармушкі, бо яны намнога эканомяць корм.

(В. Ізьбішча, Пухавіцкі р.). Сел. **М. Сенька.**

---

# Якую карысьць дала мне тарфяная подсьцілка.

У бягучым 1927 годзе ў мяне было мала аб'ёмістага корму. Прышлося скарачаць яго ў корме для жывёлы, а пра подсьціл саломаю і думаць не даводзілася. Цана на салому стаяла высокая: звыш 50-ці к. за пуд. Такая дарагавізна і недахват саломы прымушалі трымаць жывёлу паўгалодную і ў гразі, бяз подсьцілу.

Каб здабыць подсьціл, я зімою загатаваў тарфяной падсьцілкі, накапаўшы сырой масы торфу да 3.000 пуд. Дзякуючы маразам, торф прамёрз і зрабіўся лёгкі, як пух. Пад вясну, як толькі стала прыграваць сонца, мёрзлы торф стаў прасыхаць і ўжо к 15 красавіку я мог карыстацца ім, як сухою падсьцілкаю. Усю вясну, да вывазу гною скаціна стаяла ў сухім і чыстым ад гразі хляве. Пасьля вывазкі гною з хлява, я адразу навазіў слой сухога торфу таўшчынёю ў 4 вярш. і паверх заслаў яго старой саломаю. Так падсьцілаў я скаціну і далей ўсё лета. У хляве пастаянна было суха, а гною прыбывала значна больш, чым ад саломы. Гной з торфу ня ўступае саламянаму. Я спрактыкаваў яго ўжо ў 1926 г. пад гародніну.

А цяпер магу сказаць, што караньплоды ад тарфянага гною падвышаюць ураджай да 10 проц. Раю гаспадаром карыстацца тарфянай падсьцілкаю без усякай пробы, бо тарфяная падсьцілка ёсьць верны шлях да паляпшэньня сельскай гаспадаркі. Торфу ў нас многа і карысьць ад яго вялікая.

Сел. **К. Запольскі.**






# Аб прадажы лесу сельскаму насельніцтву з лясоў дзяржаўнага значэньня.

Пачалася найбольш вольная пара ад палявой працы і селянін азабочан, дзе і як яму дастаць лес на будоўлю і апал.

Лясоў у нас зараз ня так многа, чаму і ёсьць недахоп у драўніне, як для патрэб насельніцтва, так і для прамысловасьці. Але, каб захаваць нашы лясы ад канчатковага іх зьнішчэньня, Савецкая ўлада ўстанавіла ў дзяржаўных лясох так званы плянавы парадак водпуску лесу. Сутнасьць яго ў тым, што лес адпускаецца—

1) у пэўнай чарадзе,
2) па нормах,
3) па цьвёрда ўстаноўленай цане,
4) на пні ці пасьля распрацоўкі.

Чарговасьць палучэньня лесу устаноўлена для сырарастучага і няжывога будаўлянага лесу (сухастой, буралом, ветравал). Для няжывога драўлянага лесу (ламаччо, вяршыны, сучча, хворашт, пні) ніякай чаргі на водпуск яго сялянству на апал не ўстаноўлена, і кожны селянін можа зайці да лясьніцтва і палучыць білет на загатоўку і вывозку гэтага апалу для сваёй патрэбы ў граніцах нормы. Лясьніцтва пры гэтым павінна мець на ўвазе:

а) Налічча такога лесу ў лясных дачах дзяржаўнага значэньня.

б) Ці ёсьць у сялян лес мясцовага значэньня і колькі там выходзіць апалу.

в) Ці ёсьць зарасьнікі на сялянскіх с.-г. плошчах.

г) Ці ёсьць у сялян распрацоўкі торфу.

Калі гэтага ня прыняць пад увагу, дык можа здарыцца, што адзін селянін атрымае ў лясьніцтве апалу чуць не на два гады, а другому і на поўгода ня хопіць.

Мёртвы будаўляны лес на рамонт будоўлі адпускаецца лясьніцтвамі па прад'яўленьні пасьведчаньня за подпісамі Сельсавета і Сельскага Камітэту Т-в Сялянскай Узаемадапамогі.

Сырарастучы лес адпускаецца ня інакш, як пасьля яго разьмеркаваньня Сельскімі ляснымі камісіямі, у склад якіх уваходзяць прадстаўнікі Сельсавету і Сельскага К-ту Т-в Сялянскай Узаемадапамогі. Сельская лясная камісія, як орган ураду, абавязана з усёю асьцярогаю і ўдумнасьцю аднесьціся да разьмеркаваньня лесу паміж сялянскімі дварамі і разьмяркоўваць толькі тую драўніну, якая прышлася на долю данага сельсавету пры папярэднім разьмеркаваньні Раённай лясной камісіі.

Часта бывае, асабліва ў малалясных мясцох, што здаволіць патрэбы на будаўляную драўніну з сырарастучага лесу поўнасьцю нельга, чаму неабходзен вядомы парадак і чарга ў атрыманьні лесу.

На Беларусі цяпер у шырокім разьмеры праводзіцца земляўпарадкаваньне і разам з гэтым перасоўка насельніцтва з іх будынкам. Сельскія лясныя камісіі гэта павінны мець на ўвазе і ў першую чаргу адпускаць будаўляную драўніну насельніцтву, якое будуе новыя будынкі на новым месцы ці рамантуе там старыя.

Сельскія лясныя камісіі ні ў якім разе не павінны разьмяркоўваць драўніну ў роўнай частцы на кожны двор па 2-3-5, альбо 10 дрэў. Калі так рабіць і далей, дык ніводзін селянін не пабудуе сабе новай хаты. Калі ён і сабярэ ў якіх небудзь 10 гадоў па 2-5 бярвеньняў, дык шмат з іх за гэты час згніюць.

Як правіла, лес сялянству адпускаецца па нормах. Нормы гэтыя знаходзяцца ў залежнасьці ад таго, якая будыніна будуецца ці папраўляецца. Па нормах лясьніцтва павінна адпускаць на будоўлю такую колькасьць лесу пнямі:

| НА ЯКУЮ БУДОЎЛЮ. | Таўшчыня на вышыні грудзей. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8-12 сант. (2-3 вярш.) | 16-28 сант. (4-6 вярш.) | 20-32 сант. (5-7 вярш.) | 32-46 сант. (8-10 вярш.) | Усяго | Маса ў куб. метрах. |
| 1. Хата з сенцамі даўжынёю 10,7 мэтр. (15 арш.) і шырынёю 6,4 мэтр. (арш. 9.) | 50 шт. | — | 50 шт. | 7 шт. | 107 шт. | 34 |
| 2. Хлеў даўжынёю 11,4 мэтраў (16 арш.) і шырынёю 5,7 мэтраў (8 аршын) | 35 „ | 35 | — | — | 70 „ | 15½ |
| 3. Гумно даўжынёю 11,4 мэтраў (16 аршын) і шырынёю 5.7 мэтраў (8 аршын) | 35 „ | 35 | — | — | 70 „ | 15½ |
| 4. Сьвіран даўжынёю 5,0 мэтраў (7 аршын) і шырынёю 5,0 мэтраў (7 аршын) | 25 „ | 28 | — | — | 53 „ | 11 |
| 5. Варыўня даўжынёю 5,0 мэтраў (7 аршын) і шырынёю 5,0 мэтраў (7 аршын) | 25 „ | 28 | — | — | 53 „ | 11 |
| На поўную сядзібу | 170 „ | 126 | 50 „ | 7 „ | 353 „ | 87 |

Для рамонту будынку адпускаецца ня больш 25% ці ¼ прыведзенай ў таблічцы нормы.

На апал кожнага сялянскага двара адпускаецца па норме ня больш 7, 8 куб. мэтр. ці 1¼ куб. саж. дроў, пры гэтым калі замест дроў адпускаецца адзін хворост, дык яго мажна адпусьціць на адзін двор 31,2 куб. мэтр. ці 5 куб. саж.; калі адны вяршыны і сучча, дык 15, 6 куб. мэтр. ці 2½ куб. саж., а калі адны пні, дык 10, 1 куб. мэтр. ці 1⅝ куб. саж.

Усяму працоўнамў сялянству, як правіла, норма драўніны адпускаецца па ільготнай цане, гэта значыць па таксе 1924 г., якая ніжэй прадажных цэн прыкладам у тры разы. Насельніцтва можа палучыць лес і звыш норм, калі ў лясьніцтве маецца яшчэ лес для водпуска, але з аплатай па прадажнай цане.

Акрамя памянёнай ільготы, якая прадстаўляецца ўсяму працоўнаму сялянству, лес адпускаецца:

а) з паніжэньнем таксы 1924 г. ад 10% да 75%.

б) зусім бясплатна.

в) у крэдыт праз с.-г. крэдытную коопэрацыю на 5 гадоў.



Граніца паміж двумя лесасекамі розных год.

На бясплатныя, па паніжанай таксе і крэдытныя водпускі лесу бяднейшаму працоўнаму сялянству ў 27-28 годзе Савецкі ўрад вызначыў суму 1050 тыс. руб.

Да бяднейшага насельніцтва належаць:

1) Сем'і бяднейшых ваенна-служачых Чырвонай Арміі і Флёту, якія вядуць працоўную сельскую гаспадарку і пры гэтым, як служачыя ў сучасны момант, так і зволеныя ў бестэрміновы водпуск, запас і ў працягу году пасьля звальненьня.

2) Чырвоныя партызаны б. грамадзянскай вайны.

3) Інваліды працы і вайны, сялянскія сем'і, якія звальняюцца ад сельска-гаспадарчага падатку.

Пры разьмеркаваньні бясплатных, па паніжанай таксе і крэдытных водпускаў лесу асобныя Сельскія камісіі (прадстаўнікі ад Сельсавету, Сель. Кам. Т-в Сял. Уз. і с-г. крэдытнага т-ва.) таксама захоўваюць чаргу і гэтыя ільготы на лес даюць з ліку памянёных вышэй беднякоў:

у першую чаргу будуючым агнятравалыя будынкі;

у другую чаргу—праводзячым зямляўпарадкаваньне;

у трэцюю чаргу—пагарэльцам, у якіх атрыманая страхавая узнаграда не пакрывае аплаты лесу па таксе;

у астатнюю чаргу—іншым беднякам.

Гэтыя асобныя ільготы могуць рабіцца толькі тым беднякам, якія будуюць новыя будынкі ці робяць капітальны рамонт. Лясьніцтву даецца права рабіць водпуск вяршын да 8 сантм. (2 вярш ), сучча, хворасту і пнёў (апрача хваёвых) бяднейшаму насельніцтву на апал бясплатна і без прад'яўленьня пасьведчаньня і сьпісу ад сельсавету.

Трэба сялянству ведаць, што ўсе скаргі і заявы на няправільнае разьмеркаваньне драўніны і сум на бясплатны, па зьніжанай таксе і крэдытны водпуск канчаткова вырашаюць Раённыя Выканаўчыя Камітэты. Гэта трэба ведаць, каб сяляне не трацілі дарма часу на паездку ў Акругу ці ў Цэнтр: іх скаргі будуць накірованы ў РВК для канчатковага вырашэньня.

**Я. Седашоў.**

---

# У якую пару году трэба сеч лес.

Часта трапляецца чуць ад сялян пытаньне: чаму лесараспрацоўкі ідуць заўсёды зімою ў дзяржаўных лясох. А ці можна лес сеч ўлетку і калі нельга, дык чаму? Чаму гэта лясьніцтвы зачыняюць продаж лесу з 1-га красавіка.

Дзеля таго, каб адказаць на ўсе гэтакія пытаньні, трэба ведаць, што кожны руплівы гаспадар, здабываючы сабе лес, павінен ставіць сабе такія мэты: перш здабыць добры, каштоўны матэрыял, а другое, каб пры найменшых грашовых тратах высечаная плошча лесу зноў аблясілася той самай лясной пародай, якая была высечана.

Для дасягненьня першае мэты (палучыць добрую драўніну) трэба прыгледзецца, як расьце дрэва. Усякае дрэва штогодна прыбаўляецца ў росьце, як у вышыню, так і ў таўшчыню. Пры гэтым пад карою ў дрэве кожны год адкладваецца новы слой, які завецца „гадавым кругам“. Адсюль, колькі ў дрэва такіх гадавых кругоў, столькі дрэву і гадоў. Зразумела, што чым шырэй гадавыя кругі, тым і прырост дрэва большы.

Адна частка гадавога круга ў дрэва мае больш-менш сьветлы колер і больш пухкую, мяккую драўніну, а другая частка мае цемнаваты колер і цьвярдзейшую драўніну. Сьветлая драўніна—гэта летні прырост, а цямнейшая—асеньні прырост. Вось чаму, калі сьсеч дрэва ў момант найбольшай сакавітасьці (летам), дык сок закісае і драўніна пачынае хутка псавацца. Каму не вядома так званая „сінюха дрэва“, якая бывае тады, калі дрэва сьсечана ўлетку.

Зімой-жа дрэва зьмяшчае менш вільгаці, затым у гэты час яно і дае мацнейшую драўніну. Вось чаму пры будоўлі мастоў, напрыклад, не дазваляецца ўжываць на матэрыял летняй загатоўкі. А на замежным лясным рынку зусім бракуюць лес, які загатаваны ўлетку.

Адсюль зразумела, што, каб дабыць каштоўны будаўляны матэрыял, дык лес трэба сеч толькі зімою.

Што-ж належыць да дрывянога матэрыялу, дык і тут лепш загатаўляць яго зімою, у гэтым разе дровы будуць мець менш вільгаці. На дровы ідуць лісьцяныя пароды—бяроза, асіна і інш., якія звычайна

аднаўляюцца паросткамі ад сьсечаных пнёў, на што ня трэба ніякіх грашавых затрат.

Вось і заўважана, што пясьля зімняй рубкі лесу паросткі ідуць у рост добра, а пры летняй—наадварот—часта хварэюць, а то і зусім ня ідуць. Сокі выступаюць на пні, закісаюць, зьяўляецца цьвіль і грыбныя хваробы. Вось тут усе нашы маладыя паросткі, могуць хварэць і пагінуць. Бывае, што яны і возьмуцца расьці, але не пасьпеўшы добра адзервянець да восені, зімой гінуць ад марозаў. Тады і думай гаспадар, як засадзіць новы лес і на гэтым нясі траты. Вось чаму і тут трэба згадзіцца, што на дровы лес трэба сеч таксама



Хвойкі-насеньнікі на месцы высечанага лесу.

зімою. Апрача таго, у старым лесе, валячы дрэва зімой, не так папсуецца малады падрост, які сядзіць пад сьнегам, і з якога вырастае новы лес.

У нас асабліва трэба забараняць летнюю рубку лесу і ў мэтах барацьбы з пажарамі. Пасьля рубкі лесу застаецца шмат усякага лому і гальля, і калі пачнеш улетку падбіраць і паліць, дык можаш нарабіць бяды: агонь пойдзе гуляць па лесе. Застаўляць-жа ламаччо праз лета на зіму таксама небясьпечна, бо ад неасьцярожнасьці з агнём яно можа таксама загарэцца.

Выходзіць, што лепш за ўсё рабіць падборку зараз-жа пасьля рубкі. Трэба яшчэ дадаць, што пры летняй рубцы лесу могуць распладзіцца шкоднікі—шасьціножкі, як караеды і інш. Пры зімняй рубцы і падборцы для іх расплоду няма добрых умоў.

Дык вось чаму лясныя правілы дазваляюць лес сеч толькі зімою.

М. Шалупенка.




# Становішча с.-г. коопэрацыі ў Магілеўскай акрузе.

Сталыпінскі закон 1906 г., дзяржаўная і земская дапамога праз аграномію ўзмацнілі розьніцу паміж кулацкімі і бедняцкімі пластамі вёскі.

Адною з мер згладжваньня розьніцы паміж гэтымі двумя часткамі вёскі зьявілася с.-г. коопэрацыя, як садзейнічаючая тэхнічнай рацыяналізацыі гаспадаркі. У выніку гэтага з 1910 г. пачынаюць у б. Магілеўскай губ. організоўвацца крэдытныя і пазыка-ашчэдныя т-вы па абслугоўваньню вясковага насельніцтва. Паміма гэтага з 1880-ых гадоў у кожнай воласьці існавалі валасныя ашчэдныя касы, якіх па губэрні на 1914 г. налічвалася 146 з уласнымі сродкамі ў 1913 г. на 1.800 тыс. руб. Касы гэтыя існавалі на падставе правіл, устаноўленых валаснымі сходамі. Адзінства у іх працы ня было: пазыкі на 90% былі пратэрмінаваны. У 1905 г. інспэкцыяй дробнага крэдыту касы былі пераведзяны на статуты „аб Валасных Пазыка-ашчэдных касах"; і на 1-I—1915 г. іх ужо налічвалася 121.

У межах Магілеўскае акругі на 1-II—1915 г. налічвалася: 43 крэдытных, 16 пазыка—ашчэдных т-в і 61 валасная каса.

На адно крэдытнае т-ва прыходзілася 1041 пайшчык, на 1 пазычкова-ашчэднае т-ва 743 пайшчыкі.

Крэдытныя т-вы б. Магілеўскай губ. мелі сродкаў—

| | |
|---|---|
| на 1-I—1914 г. . . . . | 3.574 тыс. руб. |
| „ 1-I—1915 „ . . . . | 4.049 „ „ |

Галоўнай дзейнасьцю крэдытных т-в была выдача пазык.

Пазыкі выдаваліся:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На куплю зямлі . . . | 37% | На ўплату даўгоў . . | 3,5% |
| „ набыцьцё раб. жывёлы | 25% | „ прадпрыемствы . . | 3,4% |
| „ будынкі . . . . | 14% | „ с.-г. машыны, насеньне і ўгнаеньне . . . | 2,3% |
| „ арэнду зямлі і наём прац. сілы . . . | 3,3% | Іншыя . . . . . . | 11,5% |

Сярэдні разьмер пазыкі быў 50 руб. за выключэньнем пазыкі на куплю зямлі. Тэрмін пазыкі—10-12 м-цаў.

Снабжэнчаскія опэрацыі займалі вельмі нязначнае месца. Так, у 1914 г. крэдытнымі т-вамі губэрні прададзена с.-г. машын, прылад, насеньня і ўгнаеньня на 94.180 руб.

Збытам прадукцыі сельскае гаспадаркі крэдытная коопэрацыя не займалася па адсутнасьці коопэрацыйнай організацыі, якая-б узяла на сябе продаж загатоўленага. Толькі з 1914 г. Камэрцыйны аддзел маскоўскага народнага банку ўпяршыню прыступіў к загатоўцы льна-валакна і вывазу яго ў Ангельшчыну.

Далейшы рост і дзейнасьць крэдытнай коопэрацыі ў пэрыяд імпэрыялістычнае і грамадзянскае бойкі спыняецца. Крэдытная коопэрацыя ўжо у 1914 г. ня мела прыросту ніводнае адзінкі.

Пачынаецца занова праца толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. У 1919 г. на агульным сходзе ўпаўнаважаных Магілеўскага Саюзу коопэратываў (спажывецкіх) выносіцца пастанова аб арганізацыі пры Саюзе С.-г. аддзелу з даручэньнем Праўленьню Саюзу арганізаваць і Крэдытны аддзел.

У 1920 г.налічча сельска-гаспадарчых Сэкцый пры Саюзах было ўзаконена. Сэкцыі ставілі сваёю мэтаю снабжэньне насельніцтва с.-г. прыладамі, насеньнем, угнаеньнем і інш. рэчамі. Праца с.-г. Сэкцыі Магілеўскага Саюзу к 15-IV—1920 г. вылілася ў організацыю 10-ці малочных арцеляй з 260 членамі. Сэкцыя бралася за гародніцтва, садоўніцтва, насеннаводзтва, хадайнічала аб разрашэньні закупляць зямляробскія машыны і прылады нараўне з Земаддзелам.

Далейшы рост Саюзу і сеткі с.-г. коопэрацыі ў межах сучаснай акругі паказваецца ў наступных лічбах па гадох (на 1 кастрычніка):

| НАЗВА ВІДАЎ С.-Г. КООПЭРАЦЫІ | 1924 г. | | 1925 г. | | 1926 г. | | 1927 г. (1-VII) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік аб'ядн. | Лік пайшч. | Лік аб'ядн. | Лік пайшч. | Лік аб'ядн. | Лік пайшч. | Лік аб'ядн. | Лік пайшч. |
| С.-г. крэд. т-вы | 23 | 10528 | 23 | 22001 | 29 | 36947 | 38 | 49027 |
| С.-г. таварыствы | 7 | 557 | 13 | 1550 | 23 | 2655 | 23 | 2512 |
| Малочн. коопэр. | 4 | 125 | 5 | 123 | 18 | 593 | 31 | 1425 |
| Кантр. т-вы | — | — | — | — | — | — | 2 | 62 |
| Т-вы плем. жывёл. | — | — | 1 | 1012 | 1 | 1192 | 3 | 1317 |
| Быччы т-вы | — | — | — | — | — | — | 7 | 59 |
| Пчал. т-вы | 3 | 319 | 4 | 436 | 8 | 339 | 12 | 427 |
| Сад.-гародн. т-вы | 1 | 10 | 10 | 81 | 22 | 174 | 24 | 206 |
| Насенныя т-вы | 1 | 112 | 1 | 535 | 1 | 540 | 7 | 635 |
| Машынныя т-вы | — | — | 2 | 10 | 6 | 61 | 13 | 161 |
| Мэліорац. т-вы | 1 | 99 | 1 | 114 | 1 | 118 | 1 | 118 |
| Т-вы агнятрыв. буд. | — | — | — | — | 4 | 165 | 19 | 415 |
| Саматужн. арцелі | 1 | 5 | 1 | 5 | 6 | 40 | 9 | 73 |
| Паз.-ашчэдн. т-вы | — | — | 1 | 71 | 1 | 150 | 1 | 178 |
| **Камгаспадаркі:** | | | | | | | | |
| Камуны | 12 | 331 | 13 | 389 | 11 | 319 | 10 | 309 |
| С.-г. арцелі | — | — | 103 | — | 51 | 839 | 57 | 899 |
| Т-вы па апрацоўцы зямлі | 92 | 1335 | — | 1610 | 22 | 464 | 25 | 285 |
| Усяго | 145 | 13415 | 178 | 27997 | 204 | 44595 | 282 | 58308 |
| % коопэр. двароў акругі (ад 140.360) | 9,4 | — | 20 | — | 31,7 | — | 41,5 | — |

Найбольш коопэравана сялянства с.-г. крэдытам, што дае 84% коопэраванае масы. Поплеч з гэтым шпарка ідзе ўперад організацыя вытворчых коопэратываў па пераапрацоўцы малака, па нагляду за пчоламі і організацыі збыту мёду, па догляду і эксплёатацыі садоў, па прадукцыі лепшага насеньня. Некалькі з перабоямі ідзе разьвіцьцё колектыўнага земляробства.

**С.-г. крэдытная коопэрацыя** праводзіць вытворчае крэдытаваньне сельскае гаспадаркі; па гадох сума выданых пазык наступная:

На 1-X—1924 г.—138,3 тыс. руб. На 1-X —1926 г.—1121,9 тыс. руб.
На 1-X—1925 г.—648,9 „ „ На 1-VII—1927 г.—1704,1 „ „

Узрост выдадзеных пазык надзвычайна шпаркі. Разам з гэтым павялічваецца ўсё больш доўгатэрміновы крэдыт. Скарыстаньне крэдыту зараз выразна адрозьніваецца ад скарыстаньня яго ў дарэвалюцыйны час, як па мэтах, так і па соцыяльных групах. Асноўная частка крэдытаў ідзе на куплю коняй, кароў, набыцьцё будынкаў, машын, насеньня.

Вынікі крэдытаваньня сьведчаць аб памяншэньні бясконных і бескароўных гаспадарак, а таксама аб скарыстаньні на 80% крэдыту бяднейшаю часткаю вёскі.

Т-вы вядуць і снабжэньне насельніцтва сродкамі с.-г. вытворчасьці (с.-г. машыны і прылады, угнаеньне, насеньне), разам з гэтым т-вы зьяўляюцца тавараправаднікамі с.-г. прадукцыі селяніна.

Гэту працу бачым з наступных лічбаў (у тыс. руб.).

| | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. (за 9 мес.) |
|---|---|---|---|
| Прададзена тавараў прамысловасьці . . | 693,3 | 1.010 | 795,4 |
| Загатоўлена с.-г. прадуктаў сялянства*) | 653,0 | 845,0 | 709,5 |

Далейшае пашырэньне сеткі с.-г. крэдытных т-ваў намячаецца так, каб у 1930 г. на 1800 сялянскіх двароў прышлося-б адно т-ва, альбо 78 адзінак па ўсёй акрузе.

**Малочная коопэрацыя** ў акрузе пачынае сваю гісторыю з 1913 г., калі земства пачынала працу ў пяршыню з паказальнага кармленьня кароў (Магілеўскі, Чаўскі, і Быхаўскі паветы). У Быхаве пры с.-г. т-ве ў 1913 г. быў організаваны Кантрольны Саюз з 3-х гаспадароў— абшарнікаў пры колькасьці ў іх быдла 310 кароў. У 1914 г. організавалася першая ў Магілеўшчыне Пацолтаўская малочная арцель у Мсьціслаўскім раёне, якая зараз адышла да Аршанскай акругі.

У 1919 і 20 г. малочныя арцелі зьяўляліся сродкамі забароны жывёлы ад рэквізіцыі і праца ў іх амаль што не вялася. Толькі ў 1923 г. Магілеўскі Саюз організуе 4 малочныя арцелі і сам бярэцца за перапрацоўку малака на 5 уласных заводах.

На 1-VII—1927 г., акрамя малочных арцеляй, перапрацоўку малака вядуць два колхозы і шэсьць сельска-гаспадарчых т-ваў; усяго налічваецца 28 сырзаводаў, 3 маслазаводы і адна арцель па збыту няздыманага малака.

| | 1924 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|
| Малочнай коопэрацыяй прынята малака (літр.) . . . . . . . . . . . | 249.582 | — | 1.044.069 |
| Выраблена сыра (кілгр.) . . . . . . | 21.771 | 73.761 | 97.843 |
| „ масла „ . . . . . . | 946 | 7.715 | 9.700 |

*) У звароты за 1924-25 г. і 1925-26 г. уключаны звароты па 2-х т-вах, якія адышлі да Аршанскай акругі пры зьліньні саюзаў.

Увесь збыт малочных прадуктаў праводзіцца праз Сельсаюз. Цяга сялянства да арганізацыі малочных арцеляй надзвычайна вялікая. Саюзу прыходзілася на працягу гадоў затрымоўваць стыхійны рост малочнае арцелі. Разгортваньню сеткі ў значнай меры перашкаджала адсутнасьць банкаўскіх сродкаў. На будучы год прадукцыя малочных арцеляй павінна вырасьці да 25.000 пуд. сыру.

Разам з малочнымі арцелямі пачынаецца рост кантрольных, племяводных і быччых т-ваў.

**Пчалярная коопэрацыя** ў акрузе пачала зьяўляцца ў 1911 годзе (Магілеўскае т-ва арганізавалася ў 1911 г.). Інструктароў па абслугоўваньню пчалярных т-ваў ня было. Пры Магілеўскім пчалярным т-ве мелася пасека з рознымі сыстэмамі вульляў. Пры Клімавіцкім земстве мелася вучэбна-паказальная пасека з 6-ці рамовых вульляў розных сыстэм і дробнымі пчалярнымі прыладамі. Збытам мёду т-вы не займаліся.

Організаваны коопэрацыйны збыт мёду пачынаецца з 1925 г. пры непасрэдным удзеле Калінінскага Саюзу. У 1925 г. было загатавана ім каля 5.000 пуд. мёду. Збыт мёду праз коопэрацыю даў магчымасьць пчаляру атрымаць высокую цану за свой мёд і бліжэй паставіў яго да коопэратыву. Пчаляры пачалі больш цікавіцца правільнай пасечнай гаспадаркай, пачалі пераходзіць ад калодных да рамовых вульляў, выпісваць вальцы, мёдагонкі і іншыя пчалярныя прылады.

**Машынныя т-вы** павінны найці сабе месца ў пасёлках з большым ахопам гаспадарак, чым гэта мы назіраем зараз. Гэта дасьць магчымасьць лепш абсталяваць іх неабходнымі с.-г. машынамі і прыладамі. Пакуль што ёсьць толькі невялікія машынныя т-вы, якія значнага ўплыву на перабудову гаспадаркі зрабіць ня могуць; трэба пры арганізацыі іх уцягваць больш шырокія колы сялянства.

**Колектыўныя гаспадаркі**, як новая форма землякарыстаньня, зьяўляюцца вынікам Кастрычніка. Кастрычнік паклаў пачатак грамадзкаму землякарыстаньню з аб'яднаньнем у гаспадарцы ўсіх вытворчых процэсаў. Першыя колектывы найшлі сабе месца на месьце быўшых абшарніцкіх маёнткаў, якія к таму часу засталіся яшчэ непадзеленымі. Рост колхозаў у пачатку надзвычайна буйны, прыцягнуў да сябе разнастайныя колы працоўных. На тэрыторыі б. Калініншчыны к 1920 г. налічвалася да 300 колхозаў. Пачынаючы з 1924 г. колькасьць колхозаў у межах пашыранай акругі наступная:

| 1924 г. | | 1925 г. | | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Усяго | Асаюжан. | Усяго | Асаюжан. | Усяго | Асаюжан. |
| 138 | 104 | 121 | 116 | 84 | 92 |

У 1925 г. па Магілеўшчыне было неадпавядаючых коопэрацыйным вымаганьням 18 адзінак, у 1926 г.—29.

У разьвітку колхозаў можна адзначыць тры пэрыяды: 1) Пачатак організацыі колхозаў і іх буйны рост па 1921 г.; 2) з 1921 г. па 1925 г. распад колхозаў у сувязі з НЭП'ам, калі фабрычныя рабочыя, саматужнікі і гандляры, выпадкова папаўшыя ў колхозы, пакінулі іх і заняліся кожны сваёй працаю. Урэшце, трэці пэрыяд—з 1925 г., калі распад колхозаў спыняецца і пачынаецца рост новых; далейшы рост

колхозаў праходзіць на землях сялянскіх, бо землі дзяржаўнай маемасьці ўжо скарыстаны амаль поўнасьцю. Гэта ўскладняе тэмп роста колхозаў, якія павінны будуць у далейшым організоўвацца на грунце машынізацыі, перапрацоўкі прадуктаў і індустрыялізацыі сельскае гаспадаркі.

Існуючыя зараз 92 колхозы займаюць усяе зямлі 11.638 гэкт. пры 4.379 едаках. Забясьпечанасьць зямлёю ў розных відах колектыўных гаспадарак наступная (гэкт.):

| | На 1 г-ку | На 1 едака |
|---|---|---|
| У камунах . . . . | 198 | 3,85 |
| У арцелях . . . . | 125,7 | 2,48 |
| У таварыствах . . | 99,7 | 2,15 |

Забясьпечанасьць колхозаў коньмі і прадукцыйнаю жывёлаю нездавальняючая (пры разьліку на 7 гэкт. пахаці—1 конь і на 3 гэкт.—1 карова.

| | Маецца | Недахоп | % недахопу |
|---|---|---|---|
| Кароў . . . | 1.159 | 670 | 36 |
| Коняй . . . | 686 | 98 | 12 |

У колектыўных гаспадарках адчуваецца таксама недахоп і ў будынках на 35%.

У 16-ці колхозах маецца 18 вытворчых прадпрыемстваў: млыноў—11, электрастанцый—1, крухмальных заводаў—1, сыразаводаў—2, маслабойняў – 2 і цагельных заводаў—1.

Намечана да організацыі ў 1927-28 г. 16 прадпрыемств, з якіх: млыноў—3, малочных арцеляй—5, іншых—8.

Паміма гэтага колхозы карысталіся крэдытам на насеньне, угнаеньне праз раённыя крэдытныя т-вы. На 1-IX г. г. колхозы павінны Сельбанку 176.885 руб., з якіх 154.940 руб. па доўгатэрміноваму крэдыту; на 1-Х—26 г. колхозы мелі запазычанасьць Банку на 128.129 р. На 1927-28 г. колхозам разам з зноў організуючыміся патрэбна крэдыту 398.000 руб., з якіх на вытворчыя прадпрыемствы 146.000 руб.

Організацыйна-вытворчае абслугоўваньне колхозаў у сыстэме сельска-гаспадарчай коопэрацыі з бягучага году вылучана ў асобую Сэкцыю пры Саюзе. Організацыя Сэкцыі выклікана неабходнасьцю ўзмацненьня працы сярод колхозаў у напрамку організацыйнай, агранамічнай і матэрыяльнай дапамогі.

**А. Валюжаніч.**

---

# Крупіцка-Стаўбуноўскі кантрольны саюз.

Саюз організован 30 студзеня 1926 г. у той момант, калі праводзіліся курсы па жывёлагадоўлі; тагды-ж было праведзена і вопытна-паказальнае кармленьне кароў у вёсцы Крупіца. У склад саюзу ўвайшло 35 чалавек, маючых 52 каровы. З 3-га мая пачала працаваць кантрольная камісія. Як пачалася праца саюзу, дык лік яго сяброў зьменшыўся да 27 чалавек. Гэта сталася таму, што ў першы год вясною і летам, маладая організацыя, кантрольны саюз, не магла разгарнуць практычную работу сярод насельніцтва, не магла паказаць свайго вялікага практычнага значэньня. Другою прычынай было тое, што Белсельсаюз

цэлага поўгода ня прымаў нашага саюзу ў свае члены, па прычынах не заслугоўваючых увагі. Гадавая-ж работа паказала вялікую вартасьць кантрольнага саюзу і падняла яго аўтарытэт сярод насельніцтва праз вопытна-наказальнае кармленьне кароў з усебаковымі тлумачэньнямі, праз організацыю злучных пунктаў з чырвонымі беларускімі быкамі, праз закладку вучасткаў з караньплодамі, організацыю конкурса гадоўлі бычкоў, паказальны адкорм сьвіней, чытаньне лекцый па сьвінаводзтву ў працягу 4-х месяцаў і організацыю злучнога пункту па сьвінаводзтву з буйным ангельскім кныром. Зразумела, што пасьля такой працы насельніцтва пайшло ў саюз. Зараз у саюзе 62 чалавекі з 80 падкантрольнымі каровамі; з іх 54 мясцовых з прымесью чырвонай пароды, 2 галяндкі, 5 швіцкіх і 15 чырвона-беларускай пароды.

Усіх кароў можна разьбіць на 2 групы: на палепшаных прылівам крыві якой-небудзь пароды і на мясцовае сялянскае быдла.

Мясцовая група кароў розьніцца па сваёй жывой вазе і надворнаму выгляду. Жывая вага ад 15—22 пуд.; сутачны ўдой пасьля ацёлу 10 літраў, процант жыру ад 3, 6 да 5, 6.

Для папаўненьня стада сябры кантрольнага саюзу пакінулі ў гэтым годзе 20 цялушак і 6 бычкоў. З 6 бычкоў 5 выпайваюцца на дагаворах-умовах і хутка будуць узяты на конкурс па ўзгадоўлі. Уся работа па ўзгадоўлі цялят знаходзіцца пад наглядам райзоотэхніка.

У сучасны момант саюз мае два бычкі-племянікі чырвона-беларускай пароды.

Кармовы клін, гэта значыць пасеў канюшыны і буракоў, у гэтым годзе павялічыўся на 70 проц.

Кантрольны саюз шмат дапамагае сялянству ўзьняць жывёлагадоўлю. Сялянства павінна ўваходзіць у гэтыя саюзы і тым паляпшаць сваю жывёлагадоўлю.

Райзоотэхнік **У. Казлоў**.

---

# 2-я Ўсебеларуская малочная выстаўка.

У Віцебску ў Доме Селяніна з 7-га па 12 лістапада праходзіла 2-я Ўсебеларуская малочная выстаўка. На выстаўцы былі паказаны экспонаты малочных вырабаў (сыр, масла, кэфір) малочных арцеляй Беларусі, савецкіх і колектыўных гаспадарак. Найбольш экспонатаў дала Віцебская, Гомельская, Менская і Аршанская акругі.

Усяго на масла-сыр. заводах коопэрацыі ў 1926-27 годзе перапрацавана 795.827 пуд. малака, і прадана няздыманага малака 252.839 пуд.

Машынны аддзел выстаўкі паказаў розныя машыны для перапрацоўкі малака. З усіх раёнаў Беларусі былі прадстаўнікі ад сялян, якіх на выстаўку пасылалі РВК альбо малочныя арцелі за свой кошт.

На выстаўцы была праведзена нарада спэцыялістых па пытаньнях разьвіцьця малочнай гаспадаркі БССР.

---




# Як праводзяцца дасягненьні Турскай дасьледчай станцыі ў сялянскія гаспадаркі.

Кожны год аб выніках сваёй працы Турская с.-г. станцыя выдае справаздачу. Да гэтага часу вышлі з друку справаздачы за 1923-24 год, за 1924-25 і за 1925-26 г. Апрача таго, станцыяй выдаюцца па розных пытаньнях і асобныя кніжкі, а таксама друкуюцца артыкулы ў газэтах і часопісах. На жаль, усіх гэтых матэрыялаў нельга адшукаць нават у аграномаў, не гаворачы ўжо пра сялян. А між тым выпісваецца ў нас шмат усякай популярнай літаратуры, якая для нашых умоў мала падыходзіць і зусім мала ўдзяляецца ўвагі працам дасьледчых станцый нашага раёну і мясцовай літаратуры, якая падыходзіць да нашых умоў. Гэта трэба лічыць ненормальным.

Селянін-жа наш наогул вельмі мала аддае ўвагі і часу кніжцы, у тым ліку і сельска-гаспадарчай. Можа тут вінавата яго няпісьменнасьць, але і добра пісьменныя сяляне вельмі рэдка бяруцца за кнігу і газэту. Многа працуе наш селянін рукамі і замала галавою, чаму і гаспадарку вядзе старымі дзедаўскімі прыёмамі.

Абставіны-ж жыцьця селяніна пасьля рэвалюцыі рэзка зьмяніліся. Ужо прышоў час і ёсьць магчымасьць найхутчэй перабудаваць гаспадарку на новы лад. У нас, як нідзе ў сьвеце, пакуль што наглядаецца страшэнны адрыў навукі ад жыцьця, тэорыі ад практыкі. Тут даволі прывесьці некалькі лічбаў проф. Даярэнка.

На палёх Ціміразеўскай с.-г. акадэміі зьбіраецца ўраджай звыш 200 пуд. з дзес. зярна, на маладой яшчэ Турскай станцыі жыта дае звыш 100 пуд. з дзес., а сялянская гаспадарка на трохпалёўцы ўсё яшчэ мае 40-50 пуд.

Вось дзеля таго, каб мацней зьвязацца з сялянскай гаспадаркай, праверыць свае вывады непасрэдна ў сялянскіх ўмовах і як можна хутчэй пашырыць іх, Турская станцыя шырока разгортвае працу Інстытута сялян-дасьледчыкаў.

У склад інстытуту сялян-дасьледчыкаў павінны ўвайсьці савецкія і колектыўныя гаспадаркі, камуны, с.-г. арцелі і таварыствы, с.-г. гурткі, школы markup рознага тыпу (тэхнікумы, школы сялянскай моладзі, вясковыя школы, розныя ячэйкі, Асоавіахім, ЛКСМ) і г. д., краязнаўчыя організацыі і паасобныя сялянскія гаспадаркі, якія шукаюць новых шляхоў у сваёй працы.

Галоўнейшымі пытаньнямі дзеля праверкі ў сялянскіх гаспадарках, станцыя лічыць наступнае:

1) Розныя віды запраўкі нашых глеб ўгнаеньнямі.

2) Вырашэньне пытаньня выгаднасьці ўжываньня мінэральных угнаеньняў.

3) Адшукваньне найлепшых сартоў розных культур і г. д.

Тэмы і схэмы досьледаў зацікаўленыя могуць атрымаць ад аграномаў, а то непасрэдна ад Турскай станцыі. Можна таксама кожнаму дасьледчыку выстаўляць і свае тэмы, але ўзгадняць іх з станцыяй.

Мінэральнае ўгнаеньне можна атрымаць дзеля досьледу ад аграномаў, а сартовае насеньне ад станцыі.

Узімку станцыяй будзе весьціся дасьледчая праца, галоўным чынам па жывёлагадоўлі, а таксама, калі ўдасца станцыі знайсьці сілы і сродкі, дык будуць праведзены курсы сялян-дасьледчыкаў.

Супрацоўнік Бюро Інстытуту
сялян-дасьледчыкаў **Дзіковіч.**

---

# Досьлед з кораньплодамі па рознаму ўгнаеньню.

Сёлета на вучастку ў 240 кв. саж. мною быў заложан вопыт з турнэпсам і кармовымі буракамі па рознаму ўгнаеньню: *па гною, які ўнесен увосень; па гною ўнесенаму вясною і па мінэральнаму ўгнаеньню.*




Селянін-дасьледчык Янка Судак (справа) і райаграном І. Белякоў пасьля прыборкі турнэпсу на дасьледчым вучастку.

**Ураджай 1927 г.:** *1) без угнаеньня—89 пуд. на д. 2) 2400 п. гною—2460 п., 3) 18 п. кал. солі+12 пуд. супэрфасфату+8 п. чылійск. салетры—2720 п.*

Вядома, пад вопыт я вібіраў самы вынішчаны кавалак зямлі, каб напэўна даведацца аб уплыве ўгнаеньня.

Зямлю гэту 8 гадоў без усякага ўгнаеньня засявалі рознымі каласковымі расьлінамі, а ў мінулым 9-м годзе я сеяў бульбу і таксама без угнаеньня; ураджай бульбы быў 720 пуд. па разьліку на дзес.

Глеба супесь, рэльеф роўны, узровень грунтовай вады на 2—2½ арш. Падглеба—чырвона-жоўты пясок, а яшчэ глыбей сінявата-белы пясок.

18-га верасьня 1926 г. была прыбрана бульба. Тут я выбраў вучастак пад вопыт і разьбіў на 4 дзялянкі па 60 кв. саж. кожная. На адну дзялянку вывез 60 пуд. гною і ўвесь участак узараў на зіму, а сёлета вясною да 21/VI не магчыма было на ўчастку нічога рабіць, бо стаяла вада. К 21/VI, калі трохі падсохла, я вывез 60 пуд. добраякаснага гною на другую дзялянку; узараў, расьсеяў мінэральнае ўгнаеньне і паскародзіў; 29/VI участак быў засеян. Кожная дзялянка дзялілася на дзьве палавіны: адна палавіна дзялянкі (30 кв. саж.) засявалася турнэпсам, а другая палавіна (30 кв. саж.) кармовымі буракамі.

Прыборка і вучот ураджаю быў зроблен 10-га кастрычніка ў прысутнасьці Кармянскага райаграномa І. Белякова. Вынікі ўраджаю наступныя:

| №№ дзялянак | Угнаеньне па разьліку на дзес. | Назва расьлін | Ураджай з дзялянкі | Ураджай з дзес. | Розьніца супроць ня ўгноенай |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Без угнаеньня | Турнэпс | 1 п. 4½ ф. | 89 п. | — |
| | | Буракі | 1 п. 5 ф. | 90 п. | — |
| 2 | Гной 2400 пуд. унесены ўвосень | Турнэпс | 9 п. — ф. | 720 п. | 631 п. |
| | | Буракі | 7 п. 20 ф. | 600 п. | 510 п. |
| 3 | Гной 2400 пуд. унесены вясною | Турнэпс | 30 п. 30 ф. | 2460 п. | 2371 п. |
| | | Буракі | 30 п. 15 ф. | 2430 п. | 2340 п. |
| 4 | 18 пуд. кал. солі + 12 п. супэрфосфата + 8 пуд. чыл. солі | Турнэпс | 34 п. — ф. | 2720 п. | 2631 п. |
| | | Буракі | 32 п. 1 ф. | 2562 п. | 2472 п. |

Вось з гэтай табліцы відаць, па якім угнаеньні і што дало лепшы ўраджай.

На здымку бачым з левага боку маленькую кучку: гэта ўраджай турнэпсу без угнаеньня; пасярод большая—па сьвежаму гною, а з правага боку яшчэ большая—па мінэральнаму ўгнаеньню.

Прычыну меншага ўраджаю па асеньняму ўгнаеньню мы тлумачылі так: увосень пасьля ўнясеньня гною ішлі частыя дажджы, ад якіх была празмерная вільгаць, а вясной і зусім стаяла вада, якая некалькі разоў, то высыхала, то ізноў застойвалася ад дажджу.

Наогул-жа нявысокі ўраджай кораньплодаў на вопытным вучастку мы тлумачылі двумя прычынамі: папершае, была надта позьняя сяўба, а падругое, ня вельмі добра было апрацована поле. Поле трэба было-б ператраіць, а дзеля гэтага трэба было-б прыблізна на тыдзень, а то і больш адцягнуць сяўбу. Што-ж датычыцца сяўбы і догляду за кораньплодамі, дык гэта я рабіў вось як: турнэпс сеяў, а кармовыя буракі садзіў расадаю пад кол. Расада к часу пасева была сярэдняй велічыні. Тры разы на леце кораньплоды палолі і два разы матыкавалі, бо ад частых і забоістых дажджоў вельмі ўплатнялася зямля і расьлі сарнякі. Хаця ўраджай і невялікі, але за тры месяцы і дзесяць дзён (за 100 дзён)

бадай лепшага цяжка атрымаць. З свайго боку я ўсё-ж такі лічу гэта дасягненьнем.

Для фотаграфаваньня была ўзята якраз адна трэцяя частка ўраджаю з кожнай дзялянкі без адбору. Караньплоды браліся ўсе падрад. На ўгноеных дзялянках (3 і 4) яны былі роўныя і чыстыя. Дробных амаль ня было *).

(хут. Лебядзёўка, Кармянскага р.). Сел. **Янка Судак.**

---

# Досьлед на балоце.

У 1926 годзе, пасьля арганізацыі мэліорацыйнага т-ва, я асушыў кавалак балота плошча 1/3 дзес. адчыненымі канавамі. Частка плошчы (1/6 дзес.) увосень таго-ж году была выраблена матыкамі, а другая палова (1/6 дзес.) была выраблена вясною таксама матыкамі, бо іншым нічым нельга было вырабіць. На гэтай плошчы мною былі пастаўлены досьледы:

I. *Асеньні і веснавы выраб балота.*

II. *Праверка ўплыву ўгнаеньня на балоце.*

III. *Уплыў ступені асушкі балота на ўраджай.*

Балота да асушкі зусім не скарыстоўвалася і было вельмі мокрым. Падругое, балота ўсё парасло нізкаю балотнай сасною. Травы паміж дрэвамі было вельмі мала, якая так і гінула, бо пасьба скаціны там была немагчыма.

Вынікі досьледу наступныя:

1. Асеньні выраб даў 280 пуд. сена аўса-вікі на дзес.
   Веснавы выраб даў 250 пуд. „ „ „ „ „

2. *Ступені асушкі.*

Паласа на 4 саж. ад канавы дала ўраджай 296 пуд. сена на дзес., а паласа на 10 саж. ад канавы дала ўраджай 225 пуд. на дзес.

3. *Праверка ўплыву ўгнаеньня калійнай солі і тамасаўкі.*

а) 18 пуд. калійнай солі і 24 пуд. тамасаўкі на 1 дзес. далі ўраджай 250 пуд. сена аўса-вікі.

б) адна калійная соль (18 пуд. на дзес.) дала ўраджай 220 пуд.

в) адна тамасаўка (24 пуд. на дзес.) дала ўраджай 140 пудоў на дзесяціну.

г) калійная соль (9 пуд.) і тамасаўка (12 пуд.) далі ўраджай 215 пуд. на дзес.

д) 9 пуд. калійнай солі на дзес. далі 210 пуд. сена.

е) дзялянка без ўгнаеньня дала ўраджай 135 пуд. на дзес.

Вынікі маіх досьледу кажуць:

1. Што на асушэным балоце ўспашку лепш рабіць з восені.
2. Ураджай на балоце каля канаў значна лепшы.
3. Дзялянка, угноеная аднэй тамасаўкай, чамусьці зусім не дала прыбаўкі ўраджаю. Я думаю, што на балоце трэба часьцей ужываць толькі адно калійнае ўгнаеньне.

Досьлед з угнаеньнем трэба лічыць яшчэ ня кончаным.

(в. Юравічы, Клімавіцкага р.). Сел.-дасьл. **Е. Кавалёў.**

---

*) Правільнасьць паказаных вынікаў ураджаю з вопытных дзялянак Янкі Судака сьведчу. Кармянскі раённы аграном І. Белякоў.

# Угнойвай поле пад ячмень з восені.

(*З досьледу*).

Нашы сяляне, калі сеюць ячмень, дык гной пад яго вывозяць за тыдзень да пасеву. Я на аснове свайго досьледу даведаўся, што калі навазіць гною з восені, дык можна атрымаць большы ўраджай. Ячмень будзе ростам большы і буйнейшае зерня. Рабіў я свой вопыт так: увосень 1926 г. на аднолькавай зямлі адмерыў дзьве роўныя дзялянкі плошчаю ў 60 кв. саж. кожная. На першую дзялянку ўвосень я вывез 40 пуд. гною і абедзьве дзялянкі заараў. Калі зямля зьляглася і на ёй зьявілася скарыначка, дык я абедзьве дзялянкі пацягнуў жалезнай бараной па два сьляды. Далей дзялянкі пакінуў да вясны. Вясною за тыдзень да пасеву я вывёз 40 пуд. гною на другую дзялянку і заараў, а разам з гэтым заараў і першую дзялянку. 14-га мая абедзьве дзялянкі я засеяў адсартаваным насеньнем ячменю. Розьніца ва ўраджаі была вялікая. На першай дзялянцы ячмень быў ростам большы, чым на другой і зерня на першай дзялянцы было буйнейшае. З першае дзялянкі я намалаціў 2 пуды 20 фун., а з другой 2 пуд. У пераводзе на дзес. першая дзялянка дала 100 пуд., а другая 80 пудоў.

Селянін **М. Астрэйка**.

(в. Каласоўшчына,
Капыльск. р.)

---

# Вопыт з ячменем.

Вясною ў сёлетнім 1927 г. (па просьбе рэдакцыі часапісі „Плуг“) мне прыслалі з Дзецкага Сяла 6 клгр. ячменю „Залаты“; з ячменем прыслалі і інструкцыю. Вось падрыхтаваўшы месца для гэтага вопыта, я пасеяў ячмень так: адмераў па 60 кв. саж. для ячменю „Залатога“ і для мясцовага. Дзялянкі былі роўныя як адна, так і другая. Ячменю было пасеяна па 6 клгр. Рос ячмень і адзін і другі роўна пакуль ня ўвайшоў у пучкі, а як увайшоў у пучкі, дык прысланы ячмень цэлыя два тыдні ня выкідваў коласа: за гэты час мясцовы ячмень перагнаў яго.

Зжалі мясцовы ячмень раней, чым „Залаты“. Мясцовага нажалі 101 сноп, а залатога 150 снапоў. Але пасьля малацьбы рэзультаты былі такія:

| | | |
|---|---|---|
| Мясцовы ячмень з 6 клгр. даў | зярна | —5 пуд. |
| | саломы | —4 п. 17 ф. |
| „Залаты“ ячмень „ „ „ „ | зярна | —4 „ |
| | саломы | —6 „ 25 ф. |

Якасьць зярна ячменю „Залаты“ лепшая, а таксама і саломы ад яго больш, чым у мясцовага.

Прашу ўсіх чытачоў часопісі „Плуг“, якія правяралі гэты ячмень, даць свой адказ праз часопісь „Плуг“.

Селянін **Г. Воўк**.

(в. Касмынічы,
Мсьціслаўскага р.).

---




## Значэньне пчол для запладненьня пладовых дрэў.

Пладаводы павінны лічыць пчол сваімі лепшымі памоцнікамі. Гандлёвае садоўніцтва без дапамогі пчол ня выгадна.

Значны лік дасьледчыкаў замежамі і ў СССР упэўніліся, што пераважная колькасьць сартоў яблынь, ігруш, вішань, чарэшань і г. д. для ўраджаю вымагаюць скрыжаванага апылкаваньня. Пылок пераносіцца кузуркамі і паміж іх пачэснае месца займюць пчолы. Паводле нямецкіх даных у пару зацьвітаньня пладовыя дрэвы наведваюць 88 проц. пчол, $5^1/_2$ проц. дзікіх пчол і шмялёў і $6^1/_2$ проц. мух, вос і г. д.

Заўважым, што ў раньнюю пару зацьвітаньня дрэў толькі моцныя сем'і пчол паміж іншых кузурак падрыхтованы да працы.

Доктар Цандэр (у нямецкім падручніку па пчалярству) даводзіць наступнае: пчала ў мінуту наведвае 10 кветак, патрабуе для пералёта 10 мінут і робіць у дзень 40 пералётаў. Такім чынам, 1 пчала наведвае 4000 кветак.

Адзін рой высылае 10.000 лётных пчол, якія ў дзень наведваюць 4.000×10.000=, гэта значыць 40 мільёнаў кветак; а для ўсёй Нямеччыны пры наліччы 2.600 тыс. пчаліных сямей у 1 дзень апылкоўваецца 2.600 тыс.×40 мільёнаў кветак. Гэту лічбу садаводы павінны памятаць. Заўважым, што ў пару аднаго вылету пчала наведвае кветкі аднэй пароды (нават аднаго віду). Пчала не пералятае ад яблыні да ігрушы, але ў кожны раз зьвяртаецца да таго віду, на які вылятала спачатку.

Наглядамі за прыкмечанымі пчоламі, якія ад 10 да 13 дзён наведвалі гэты-ж самы від кветак, вядома, што ў вульлі пчаляр адзначае розныя сарты мёду з асабістых відаў расьлін.

Нашы вядомыя сарты: Антонаўка, Бабушкіна, Штрэйфлінг, Ружовае, Цынамонавае паласатае—не запладняюцца бяз крыжавога апылкаваньня і значыцца гэтыя сарты ў адсутнасьці пчол не ўраджайны. Гэтакая-ж справа і з ігрушамі, сьлівамі і г. д.

Раней у цяпліцах кветкі персікаў штучна апылкоўваліся пэндзелямі. У Бэльгіі ў пэрсікавых цяпліцах у час зацьвітаньня выстаўляюць на 2 дні рой пчол і дзякуючы гэтаму палучаецца такая ўраджайнасьць, што патрэбна частку пладоў зьнішчыць.

Нават у дрэнную пагоду, калі пчолы мала зьбіраюць мёду і воску, яны выконваюць значную задачу пры запладненьні пладовых дрэў, ягадных і іншых расьлін. Ня менш, як за $^3/_5$ ураджаю пладоў трэба падзякаваць пчолам.

Побач з пашырэньнем садоўніцтва трэба дбаць і аб пашырэньні пчалярства.

**М. Бурштэйн.**

# Пчалярства БССР у 1927 г.

Аб пчалярстве на Беларусі ў даваенны час гаварыць ня прыходзілася, бо да вайны яно вялося ў нас абы як.

Царскі ўрад падтрымліваў толькі паноў, а на разьвіцьцё сялянскай сельскай гаспадаркі, у тым ліку і на пчалярства, як на яе дапаможную галіну, не зварочвалася жаднае ўвагі. Пчалярства да вайны знаходзілася на такім узроўні свайго разьвіцьця, на якім яно стаяла ў даўныя часы. Культурныя пасекі на Беларусі да 1914 г. спатыкаліся толькі дзе-нібудзь у панскіх дварох. Ніякіх дзяржаўных ці агульнаграмадзкіх мерапрыемстваў па пчалярству не праводзілася.

Толькі Ўрад рабочых і сялян ня абышоў міма пчалярскую справу, як дапаможную галіну сельскае гаспадаркі.

Як пашыралася пчалярства за апошнія тры гады, паказвае табліца.

| ГАДЫ. | Лік пчалаводных г-к. | Было сем'яў. | | | | Усяго сем'яў. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | у вульлях. | % | у калодах. | % | |
| 1925-X . . . . | 41.634 | 34.654 | 25.4 | 101.794 | 74,6 | 136.448 |
| 1926 . . . . | 39.263 | 36.807 | 28.7 | 91.423 | 71,3 | 128.230 |
| 1927 . . . . | 48.242 | 51.362 | 29.2 | 123.031 | 70.8 | 174.393 |

Рост і разьвіцьцё пчалаводнай коопэрацыі ў БССР прадстаўляецца ў такім парадку:

| ГАДЫ. | Лік пчалаводных аб'яднаньняў. | Лік сяброў аб'яднаньняў. | Лік сем'яў пчол. | | Усяго. |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | Рамовыя вульлі. | Калоды. | |
| 1923–24 . . . | 7 | 553 | — | — | 7178 |
| 1924–25 . . . | 20 | 839 | 5632 | 3304 | 8936 |
| 1925–26 . . . | 35 | 1166 | 7692 | 5108 | 12800 |
| 1926–27 . . . | 39 | 1494 | 9615 | 9824 | 19439 |

З ростам пчалаводнай коопэрацыі, вырасла патрэба організаваць і цэнтральную мэханічнаю майстэрню для вырабу вульляў і пчалярскіх прыладаў. Пэрспэкцыйным плянам прадугледжваецца крэдытаваньне пчалаводнай коопэрацыі ў працягу пяці год. Сума гэтага крэдыту складае 800.000 руб. На організацыю цэнтральнай мэханічнай майстэрні было вызначана сума доўгатэрміновага крэдыту 60.000 тыс. р., (30.000 тыс. руб. на арганізаваньне майстэрні і 30.000 тыс. руб. на загатоўку ляснога матэрыялу).

Пытаньне аб утварэньні цэнтральнай мэханічнай майстэрні Наркамзему ўдалося паставіць на правільны шлях толькі ў ліпені м-цы гэтага 1927 г. Рэчыцкае пчалаводнае т-ва склала проэкт організацыі

такой майстэрні ў г. Рэчыцы. Пры чым т-ва згадзілася ўлажыць у прадпрыемства ўласных грошай 5000 руб, і запрасіла, як дапамогі, сельска-гаспадарчага крэдыту у суме 18.000 рублёў.

Проэкт, падрабязны каштарыс і плян працы т-ва ў чэрвені м-цы 1927 г. былі разгледжаны сумесна з інспэктарам пчалярства НКЗ. Наркамзем і зацікаўленыя ўстановы Рэчыцы і Гомеля адобрылі гэты проэкт і плян. У сувязі з гэтым у жніўні 1927 г. Белсельбанк запрапанаваў Гомельскаму Аддзяленьню выдаць у першым квартале 1927 г. Рэчыцкаму пчалаводнаму таварыству запрошаны сельска-гаспадарчы крэдыт у суме 18.000 руб.

Сабекошт вулья сыстэмы Дадан-Блата па каштарысу Рэчыцкага т-ва вылічан, пры выпуску ня менш 10.000 вульляў, у суме 5 руб. Памянёнымі мясцовымі ўстановамі была ўхвалена вытворчасьць (прадукцыя) майстэрні на 1-шы год у колькасьці 3.000 вульляў і сабекошт вулья ўстаноўлен ў 6 руб. 70 кап.

Валавая даходнасьць пчолаводзтва БССР за 1927 г.. Цэнтральная статыстычная Ўправа БССР лічыць, што мёду ад рамовага вулья сабрана 16 клгр. і ад простай калоды 8 клгр., воску ад рамовага вулья і ад калоды ў сярэднім—400 грам. Кілёграм мёду каштуе 60 кап. і кілё воску 3 руб., рой пчол. 5 руб.

Па гэтых даных даходнасьць пчалярства на 1927 г. можна вылічыць у такой суме:

| ВУЛЬЛІ. | Колькасьць сем'яў пчол. | Мёду. | | Воску. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Колькасьць у клгр. | На суму руб. | Колькасьць у клгр. | На суму руб. |
| Рамачныя . . . | 51.362 | 721.792 | 433.039 | 69.757 | 209.271 |
| Калоды . . . | 123.031 | 984.248 | 590.585 | | |
| Усяго разам . | 174.393 | 1.706.040 | 1.023.624 | 69.757 | 209.271 |

Такім чынам, агульная даходнасьць ад мёду і воску ў 1927 г. (ня лічачы прыроста сем'яў пчол) складае 1.232.895 р.

І. Струкоўскі.

# Дзе і як трэба ставіць пчол на зімоўку.

У сучасны момант нараўне з вялікімі дасягненьнямі навукі ў пчалярстве ёсьць яшчэ шмат пытаньняў, адносна якіх няма яшчэ пагоджанасьці. Да такіх спрэчных пытаньняў належыць і зімоўка пчол. Там, дзе пчолы прымушаны сядзець у вульлі шэсьць і больш месяцаў у год без аблёту, там пытаньне зімоўкі пчол зьяўляецца хворым месцам у пасечнай гаспадарцы нават знатакоў пчалярнага дзела. Звычайныя-ж пчалаводы, асабліва тыя, якія ня ведаюць элемэнтарных асноў у пчалярстве, мучаць і морацьпчол кожную зіму.

Аб зімоўцы пчол ёсьць супярэчнасьці ў падручніках і часопісах па пчалярству, якія не пад сілу нават больш-менш сьвядомым пчаляром. Адны, напрыклад, гавораць, што пчолы добра зімуюць толькі

ў амшаніках, другія даказваюць, што ў добра ўцёпленых вульлях пчолы зімуюць на дварэ, і што пры такой зімоўцы пчолы робяцца больш трывалымі, менш чулымі да холаду і раней прыходзяць у сілу.

У нас, а таксама і ў пчалаводаў другіх краёў, пакінутыя па зіму вульлі на дваре ўцяпляюцца так, каб вільготнае паветра вульля магло выходзіць на двор праз столь. Амэрыканскія-ж пчаляры ня толькі для зімы, але і для лета робяць шчытныя столі ў вульлях.

Наш беларускі клімат характарызуецца частымі зьменамі пагоды, чаму для зімоўкі пчол ён ня лічыцца спагадным. Пры нашых умовах ад пчаляра вымагаецца шмат клопату і ўвагі пры падрыхтоўцы пчол к зіме.

Скажам некалькі слоў аб жыцьці пчол зімою. Пчолы к зіме ў вульлі зьбіраюцца ў адзін клубок. Зімою пчолы падтрымоўваюць цяплыню ў 12—15° С. Але гэта і можа зьмяняцца ў адзін і другі бок залежна ад пагоды на дварэ. Падтрыманьне цяпла ў вульлі адбываецца ад пастаяннага руху пчол і паяданьня імі мёду. Пры нізкай тэмпэратуры крайнія ў клубку пчолы пачынаюць лезьці ў сярэдзіну клубка, за імі другія і ўрэшце пачынаецца значнае руханьне пчол. Ад гэтага цяплыня ў вульлі падвышаецца, і пчолы супакойваюцца да новага выпадку паніжэньня цяплыні ў вульлі.

Абавязак пчаляра і складаецца ў тым, каб захаваць пчол ад частых зьмен цяплыні ў вульлі. Пчолы зімуюць добра або ў амшаніку, дзе чыстае і сьвежае паветра, пры 4—5° цяплыні, або на дварэ пры добра ўцепленых вульлях.

Калі пчаляр ня можа збудаваць амшаніка, дык лепш пчол пакідаць зімаваць на дварэ, але вульлі абавязкова ўцяпляць.

У Беларусі ўцяплёным вульлем трэба лічыць той, сьценкі якога маюць ня менш 3½ вярш. Калі вульлі аднасьценныя, дык іх лёгка ўцяпліць, зрабіўшы з дошчак скрынку такога разьмеру, каб устаўлены ў яе вулей можна было асыпаць з усіх чатырох бакоў апілкамі або кастрыцаю ці сухім мохам. Скрынкі лепш разборныя так—паасобна дно і чатыры сьценкі. Асабліва добра ўцяпляць вулей трэба зьверху.

Супраць ляткоў трэба зрабіць дзіркі так, каб яны не засыпаліся пры ўцяпленьні. Так уцепленыя вульлі можна ставіць пад навес, а то і пакінуць на месцы. Застаецца толькі пад ляткамі прыладзіць дошчачкі, каб туды не набівалася сьнегу, які час-ад-часу і трэба зьмятаць.

Спосабам вэнтыляцыі паветра ў вульлі трэба лічыць верхні ляток. Калі ў вульлі няма верхняга лятка, дык трэба пракруціць невялікую дзірку і на зіму яе адчыняць. **Ў. Ліванскі.**

---

# Паштовая скрынка.

**Селяніну Т. Воўку.** Для прыёма Вамі падпіскі на „Плуг“ вышлем Вам умовы і пасьведчаньне.

**Селяніну Войцянкову. В. Я.** Сьпіс выданьняў НКЗ выдрукаваны ў № 9 „Плуга“, які Вам і высылаем.

**Сялянам Балашову А., Фралову Я. Т., Пракаповічу Н. А., Фраловай Х. Т.**—Рэдакцыя высылае № часопісі „Плуг“ для азнаямленьня толькі на паштоўкі, якія будуць аплачаны маркамі.

**Селяніну Г. Шасьцітку.** Часопісь „Плуг“ выпісвае толькі Менскае Аддзяленьне І-ту Прыкладное Ботанікі.

---

# С.-Г. ХРОНІКА.

## Вынікі надзвычайнай мэліорацыйнай нарады.

У кастрычніку м-цы адбылася надзвычайная нарада пры Наркамземе БССР. У гэтай нарадзе прыймалі ўдзел ня толькі спэцыялістыя Беларусі, але і самыя выдатныя спэцыялістыя РСФСР, Украіны і Дзяржпляну СССР. Нарада павінна была абгаварыць два пытаньні мэліорацыйнага буданіцтва БССР.

1) Шляхі разьвіцьця культуры балот і

2) Асноўныя прынцыпы і мэтады складаньня генэральнага пляну мэліорацыі ў БССР.

Мэліорацыйнае будаўніцтва на Беларусі разгорнута шырэй, чым у суседніх рэспубліках (РСФСР і Украіне), а таксама за гэтым будаўніцтвам III Сэсіяй ЦВК СССР 3-га склікаНьня прызнана агульна-саюзнае значэньне, чаму мэтады работы і дасягненьні Беларусі па мэліорацыі пераносяцца ў суседнія рэспублікі Саюзу ССР. Гэта нарада таксама мела саюзнае значэньне.

Па пытаньні аб шляхох разьвіцьця культуры балот былі дзьве думкі: адна вяла да таго, што з прычыны дарагоўлі работ па асноўнаму палепшаньню балот, якія не ўмагату нашаму сялянству, гідратэхнічныя работы, як рэгуляваньне вадапрыемнікаў, павінны праводзіцца з такім меркаваньнем, каб зрабіць балота толькі даступным для насельніцтва, для правядзеньня на іх работы па павярхоўнаму палепшаньню або з непрахадзімых балот зрабіць санакосы і выганы. Такая асушка завецца экстэнсыўнай.

Другая думка выяўлялася ў тым, што мэліорацыйнае будаўніцтва БССР, як па асушэньню, так і па культуртэхніцы павінна разьвівацца з такім меркаваньнем, каб мы маглі зрабіць балота ня толькі даступным для чалавека, але і абярнуць яго ў поле і штучную сенажаць з высокай ураджайнасьцю. Гэта думка падтрымлівалася і НКЗ. Тут мелася на ўвазе, што інтэнсыўная мэліорацыя павінна разьвівацца галоўным чынам у больш інтэнсыўных сельска-гаспадарчых раёнах. Што-ж датычыцца экстэнсыўных сельска-гаспадарчых раёнаў, дык мэліорацыя ў іх павінна мець экстэнсіўны напрамак. Інтэнсіўная мэліорацыя павінна быць у тых мясцох, дзе да гэтага будуць належныя даныя. Нарада ўхваліла іменна гэты варыянт.

Тут-жа па нарадзе выплыла пытаньне і аб стварэньні ўнутрырэспубліканскіх калёнізацыйных фондаў на балотных масывах. Некаторыя ўдзельнікі выказваліся за тое, каб работа Наркамзема па стварэньню кол-фонда на балоце саўгаспадаркі Мар'іна (плошча каля 8000 гэкт.) была-б вопытнай, чаму ў складаньні новых фондаў трэба ўстрымацца. Аднак нарада на гэты пункт погляду ня стала. Яна прызнала неабходным вышукваньне і стварэньне такіх фондаў па ўсёй рэспубліцы.

Такім чынам, гэта аўторытэтная нарада палажыла канец няўпэўненасьці ў мэліорацыйнай працы. Раёны інтэнсыўнай і экстэнсыўнай мэліорацыі абгавораны. Акрамя таго Нарада прызнала, што, як гідратэхнічныя, так і культуртэхнічныя работы могуць пасьпяхова разьвівацца толькі пры шырокай іх мэханізацыі.

У пытаньні складаньня гэнэральнага пляну Нарада прызнала, што Беларусь мае даволі даных ня толькі да складаньня гэнэральнага пляну мэліорацыі, але да яго выканаНьня.

З гэтых даных пералічым такія:

1) Дзяржплян СССР прызнаў неабходным у працягу 15 год асушыць 1.500.000 гэкт. нашых балот.

2) Вызначэньне Дзяржплянам СССР формаў і крыніц фінансаваньня мэліорацыйных работ.

3) Зацьверджаньне Водна-мэліорацыйнага кодэксу.

4) Налічча кваліфікаванай тэхнічнай сілы.

5) Імкненьне насельніцтва да мэліорацыі, выявіўшаеся ў організацыі ўжо каля 800 мэліорацыйных таварыстваў.

6) Пачатак разгортваньня культуртэхнічных работ.

Значныя цяжкасьці складаньня гэнэральнага пляну будуць заключацца ва ўвязцы яго з агульнымі мерапрыемствамі па воднай гаспадарцы ня толькі БССР, але і іншых рэспублік. Да сучаснага моманту існавала думка, што зьнішчэньне Дняпроўскіх парогаў магло-б даць натуральнае асушэньне Палескіх балот, а пабудаваньне „Днепростроя" можа выклікаць пад'ём вады ў Дняпры і рацэ Прыпяці. Вось чаму ў гэтай часьці гэнэральнага пляну перад складацелямі стаяць асабліва вялікія цяжкасьці.

Гэнэральны плян павінен будзе прадугледзіць яшчэ адну з важнейшых галін народнай гаспадаркі—шляхі зносін. Без вырашэньня пытаньня аб шляхох, ня можа быць і гутаркі аб поўным скарыстаньні асушаемых плошчаў.

Ці зможам мы справіцца пры сваёй беднасьці з такой вялізарнай задачай, як асушэньне 1.500.000 гэкт. беларускіх балот. На гэта адказвае вядомы ў Саюзе ССР культуртэхніка праф. Дмітрыеў, што да вайны на пасяджэньні гаварылі аб мэліорацыі, але ня былі ўпэўнены ў тым, аб чым гаварылі; цяпер жа мы абгаварываем і глыбока ўпэўнены, што гэта работа будзе выканана, бо ня толькі мы спэцыялістыя хочам і верым у яе ажыцьцяўленьне, але з намі вераць і абудзіўшыяся шырокія колы працоўнага сялянства. К гэтаму трэба дадаць, што падставай рэяльнасьці гэтай справы можа быць 10 год улады Саветаў.

**Н. Тамковіч.**

## Балотныя станцыі СССР.

У мінулым годзе я аб'езьдзіў і пазнаёміўся са ўсімі балотнымі ўстановамі Савецкага Саюзу.

Як і на Беларусі—у РСФСР і на Украіне апрача паказальных і агітацыйных ці апорных пунктаў па культуры тарфянікаў—ёсьць яшчэ вопытныя балотныя станцыі і вопытныя палі.

На Далёкай Поўначы, дзе ўлетку праз два месяцы зусім не заходзіць сонца, а зімою страшэнны холад і ніколі ня відаць сонца—там Мурманская жалезная дарога залажыла два балотных палі: адно каля станцыі Хабіны на Кольскай паўвысьпе; другое трохі на поўдзень каля станцыі Лоўхі. Увесь гэты край мае шмат вазёр, каменных глыб і хвойных лясоў. На больш роўных мясцох разьлягаюцца балоты. Балоты гэтыя звычайна ў моху. І вот толькі з гэтых балот можна вырабляць палі і луг, бо зусім сухія абшары ўсе ў каменьнях і на гэтых абшарах можа сам расьці толькі лес.

Балотныя станцыі тут першыя мясьціны наогул, дзе пачынаюць займацца земляробствам. Вопытныя станцыі ў Лоухах і Хібінах організованы ў 1924-25 г. Ёсьць яшчэ дзьве балотныя станцыі трохі на

поўдзень, але ўсё-ж у досыць халодным краі—гэта адна каля сталіцы Карэльскае Рэспублікі—Петразаводзка і другая каля г. Архангельска.

Петрапалаўская балотная станцыя заложана ў 1926 г., Архангельская-ж у 1914 г. Гэтыя дзьве станцыі вельмі важныя для Карэліі і Архангельскай губерні, бо абедзьве маюць шмат забалочаных зямель.

Ня гледзячы на тое, што каля самага Ленінграда шмат балот на жаль тут няма балотных станцый. Толькі цяпер ёсьць праэкт залажыць.

У Поўрачна-Заходняй вобласьці ёсьць адна балотная станцыя каля г. Ноўгарада, якая заложана яшчэ ў 1913 г.

У падмаскоўскім раёне ёсьць тры вопытных палі на балотных глебах: 1) Яхрамскае вопытнае балотнае поле каля г. Дмітрава, заложана ў 1916 г.

2) Чашнікаўская гаспадарка лугавога дзяржаўнага Інстытуту ў 40 в. ад Масквы па Кастрычнікавай ж. д.

3) Міхнеўскае вопытнае поле за 40 вер. ад Масквы па Казанскай ж. д.

Апошнія два палі заложаны толькі 2 гады таму назад.

На Украіне ў апошні час ёсьць толькі адна Балотная станцыя на Валыні каля Рудні-Рудавельскай; заложана ў 1915 г.

У Беларусі—Менская болотная станцыя заложана ў 1912 г., Забалацкая балотная гаспадарка каля г. Рагачова, Бабр. акр.—заложана ў 1918 г. Як бачым Менская балотная станцыя найстарэйшая за ўсе ў Савецкім Саюзе.

**М. Дакунін.**

## Аб пладаводзтве Беларусі.

Усесаюзная нарада па пладаводзтву пры Інстытуце Прыкладнае Ботанікі рашыла дасьледваць усе сарты пладоў, якія дзе могуць расьці на абшары СССР.

Для гэтага на Беларусь была послана спэцыяльная экспэдыцыя па дасьледаваньню пладаводзтва Беларусі.

Экспэдыцыя працавала ў жніўні і верасьні гэтага году, пад кіраўніцтвам проф. Пашкевіча і дасьледавала пакуль што толькі паасобныя раёны ў Мазырскай, Гомельскай, Бабруйскай і Менскай акругах. Экспэдыцыя азнаёмілася з некалькімі каштоўнымі садамі, і сабрала каля 750 нумароў пладовага матэрыялу, які будзе вывучацца; з іх яблынь 283 сарты, груш—71 сорт, сьліў 75 сартоў, вішань і чарэшань 19 сарт., а ўсяго 448 сартоў.

Досьледы паказалі, што ў Беларусі могуць расьці некаторыя крымскія сарты яблык, як ранэт залаты, песґуда, зімні залаты пармен, Лайберскі ранэт, Бойкэн, ранэт сімірэнка, ранэт абердзіка, жоўты Бельфлер, Штэцінскае Чырвонае, Пынін Рабстона і інш.

Больш замежнае месца могуць займаць Антоноўка, Бабушкіна і асеньняя паласатка, а з груш—кляпс-фаварыт, Бэрэ полацкая, Бэрэ лігэля, міністр Люціус, Добрая Луіза з Авранша і г. д.

## Праца Таварыстваў Сялянскай Узаемадапамогі.

На працягу 3-х год Організацыя сялянскай узаемадапамогі вырасла ў 1.400 т-в, якія аб'ядналі 22.401 вёску або 658.449 двароў.

Матэрыяльныя сродкі таварыстваў дасягаюць 1 мільёна р. (збожжа 366.280 п., грошай 232.696 р., розных прадпрыемстваў 343 на суму 89.741 р., пракатных пунктаў 315 на суму 106.626 р. і рознай маемасьці на 108.965 р.).

На працягу 3-х год т-вы аказалі дапамогу 191.412 бядняцкім гаспадаркам. Выдана пазычак—насеньня 652.481 п., грашыма 81.829 р. Беззваротнай дапамогі—збожам 27.042 п., грашыма 23.789 р. апрацавана зямлі 18.725 дзес., пабудавана будынакаў пагарэльцам 165, працаю 46.163 дні.

## Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 91. Ці маюць права члены мэліарацыйнага таварыства выключаныя з яго за непадлегласьць статуту, патрабаваць ад таварыства звароту свайго зямельнага вучастку, уключанага у агульную плошчу, на якой праводзіцца мэліарацыя (Калінінская Земкамісія).

Адказ. На падставе 18 арт. тыпавога статуту мэліарацыйнага таварыства выключаны з яго член ня мае права на ўзваротнае атрыманьне свайго зямельнага вучастку. Апошні у гэтым разе застаецца ў распараджэньні таварыства.

Пытаньне 92. Ці мае права домагаспадар здаць зямлю у арэнду у тым выпадку, калі члены двара згаджаюцца на здачу зямлі у арэнду за выключэньнем аднаго члена, які мае больш 70 гадоў і зьяўляецца непрацоўным. (Менская акрземкамісія).

Адказ. На здачу ў арэнду зямлі, якая зьяўляецца самым галоўным і асноўным элемэнтам гаспадаркі, трэба глядзець як на часовую адмову ад непасрэднага карыстаньня зямлей, а таму домагаспадар бяз ведама і згоды усіх паўнапраўных членаў двара ня можа здаць зямлю у арэнду.

У паказаным пытаньні, калі усе члены двара за выключэньнем аднаго непрацаздольнага 70 гадовага старога жадаюць зямлю здаць у арэнду, Райвыканком па зямельнаму сталу пры рэгістрацыі арэнднага дагавора павінен высьветліць, ці ёсьць дзеля здачы гэтай зямлі у арэнду наліччa ўмоў, прадугледжаных 27 арт. Зям. код., ці здача зямлі зьяўляецца гаспадарча-мэтазгоднай, а таксама ці выклікаецца яна агульнымі інтарэсамі двара. Пры наліччы паказаных акалічнасьцяй Райвыканком павінен зарэгістраваць арэндны дагавор.

Зразумела, што кожны член двара не пазбаўлен магчымасьці прадявіць у зямельную камісію іск аб скасаваньні арэнднага дагавору.

**Выданьне Наркамзему.**

Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі, Р. Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*

ЦАНА 20 кап: